**Пра тых паэтаў, якія павінны адгукацца на чужы боль, але ператвараюцца ў сляпых і глухіх глашатаяў вайны.** (Пра гэта чытайце на 5-й стар.)

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 20 (4375)**

12 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**БЕЗ РЕТУШИ**



Валерий КАРБАЛЕВИЧ

# Отгребать от «Титаника»

Дискуссия о состоянии и перспективах белорусско-российских отношений, начатая со статьи Александра Федуты «Слезть с иглы» и продолженная публикациями Семена Бориса и Вадима Гигина («Народная Воля», 1 марта 2018 г.), чрезвычайно злободневна. Ибо, судя по всему, мы переживаем теперь не просто очередной кризис интеграции между Беларусью и Россией. Речь, видимо, идет о смене модели двусторонних отношений. И этот процесс инициировала Россия.

Достаточно сомнительным выглядит обоснование необходимости продолжения курса на тесный союз с Россией, предложенное Вадимом Гигиным. Дескать, это единство обусловлено общей историей. Но с помощью истории при большом желании можно обосновать союз с любой страной, особенно с соседом. Мы, например, несколько веков жили в одном государстве с народами Украины (Киевская Русь), Литвы (Великое Княжество Литовское), Польши (Речь Посполитая). Так может, нам начать интеграцию с ними?

Второй тезис Вадима Гигина: интеграцию с Россией разделяет большинство белорусских граждан. Но это в значительной мере есть результат влияния российских пропагандистских телеканалов и общей тридцатилетней интеграционной риторики в белорусских государственных СМИ. Стоит изменить этот контекст, и все существенно поменяется.

В то же время я с большой осторожностью отношусь к постулату, высказанному частью оппозиции, который отчасти разделяет Семен Борис, о необходимости скорейшего выхода из интеграционных объединений на постсоветском пространстве. Тут я скорее соглашусь с Вадимом Гигиным, что не нужно рубить сплеча. В политике это всегда плохой метод.

Реакция России на выход Беларуси из СНГ, ЕАЭС, ОДКБ, Союзного государства будет примерно такой же, как на украинский Майдан. Не хотелось бы повторять печальную судьбу нашей южной соседки. И вряд ли Запад бросится на защиту Беларуси во главе с Александром Лукашенко. Увы, это наша суровая реальность, с которой неизбежно придется считаться.

Наша тактика должна быть другая. Это медленное, но последовательное дистанцирование от России. Почему это необходимо? Есть много причин, я назову лишь несколько.

1. Необходимым условием формирования белорусской нации, национальной идентичности, а значит, и белорусской государственности является разрыв с идейным наследием империи, метрополии. Это закономерность создания любой нации.

2. Если бы Россия сегодня бурно развивалась, была на экономическом подъеме, процветала, то союз с таким государством мог бы обеспечить успешное развитие и Беларуси. Но сейчас ситуация совершенно противоположная. Россия стагнирует, быстро деградирует. Уровень жизни там падает с 2014 года. Зависимость от нефти и газа России сегодня гораздо большая, чем была у СССР. По итогам 2017 года доля прямых и косвенных налогов от продажи сырья в федеральном бюджете составила 86,5 процента. Технологическое отставание РФ от Запада (а теперь и от Китая) только возрастает с каждым годом. Западные санкции окончательно добьют ее экономику.

3. Острый и долгосрочный конфликт Кремля с Западом становится все более опасным для всех российских союзников. Причем эту конфронтацию Москва выиграть не может. СССР, обладая гораздо большими ресурсами, имея союзников, проиграл подобное противостояние. Россия сегодня гораздо слабее Советского Союза и осталась практически без союзников. Даже Беларусь не поддержала РФ в ее конфликте с Западом. Опасность быть втянутой в чужую войну во весь рост встает перед Беларусью. Россия сегодня – это «Титаник», несущийся на айсберг. И нам нужно быстрее отгребать, чтобы не быть втянутыми в воронку.

4. Россия в ультимативной форме пытается принудить Беларусь к объединению с ней. В противном случае грозит лишить экономических льгот и субсидий. А формирование Союзного государства на основе договора 1999 года означает потерю суверенитета и независимости Беларуси.

5. Союз с Россией долгое время способствовал импорту энергоресурсов из РФ на льготных условиях. Теперь эта лавочка закрывается по объективным причинам. Во-первых, даже если случится невероятное и Москва согласится компенсировать Беларуси в этом и следующем годах потери от российского налогового маневра (во что не верит уже даже А.Лукашенко), то к 2024 году, когда завершится этот налоговый маневр, внутренние цены в России станут мировыми, наша страна в любом случае потеряет статус нефтяного оффшора. Во-вторых, с запуском АЭС количество газа, импортируемого из РФ, резко сократится, и это значит, что существенно уменьшится газовый грант. Поэтому слезать с российской нефтяной и газовой иглы придется в любом случае.

Но этот процесс болезненный. Он требует рыночной трансформации белорусской экономики.

Есть еще один фактор, который привязывает сегодняшнюю белорусскую власть к России. Дело в том, что Москва является гарантом белорусской диктатуры (пресс-секретарь президента Наталья Эйсмонт легализовала этот термин), защитой от демократических перемен. И это означает, что при нынешнем политическом режиме Беларуси реализовать эту тактику в полной мере не удастся.

**СКАЗАНА!**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

– У старыя добрыя часы мы прынялі канцэпцыю будучай забудовы і прывядзення ў парадак Мінска. І дамовіліся аб тым, што памалу, наколькі гэта атрымаецца, будзем згортваць будаўніцтва ў Мінску і выносіць яго ў гарады-спадарожнікі, каб не паўтарыць сумны лёс роднасных нам гарадоў. Вазьміце Кіеў, Піцер, я ўжо не гавару пра Маскву, калі працоўныя рэсурсы сцягваюцца ў адно месца. У нас ужо і так больш за 20 працэнтаў у Мінску жыве. Далей нельга.

Людзі павінны разумець, што мы кожны год, пасля ІІ Еўрапейскіх гульняў асабліва, узмоцнена будзем скарачаць аб'ёмы будаўніцтва ў Мінску.

*(Падчас сустрэчы са старшынёй Мінгарвыканкама Анатолем Сіваком 11 сакавіка.)*

**СУД И ДЕЛО**

# Приговор не будет обжалован

*13 марта вступает в силу вердикт по «делу БЕЛТА», вынесенный главному редактору портала ТУТ.бай Марине Золотовой.*

*«Я не верю, что можно добиться оправдательного приговора с учетом статистики, на которую я уже много раз ссылалась, – всего 0,2 процента оправдательных приговоров было в прошлом году. С учетом того, что и так уже потрачено семь месяцев времени, жизни и усилий, тратить время еще на то, в успех чего не верю, я не вижу смысла»*, – пояснила она порталу naviny.by.

Как известно, Марина Золотова признана виновной в бездействии должностного лица и оштрафована на 300 базовых величин (7 тысяч 650 рублей). Дополнительно с Золотовой будет взыскано в пользу УП «БЕЛТА» 6 тыс. рублей – в счет компенсации юридических расходов.

**SOS!**

# Дэмаграфічная яма?



Ілюстрацыйнае фота.

На 1 студзеня 2019 года ў Беларусі пражывала 9 млн 475,2 тысячы чалавек. Такія папярэднія дадзеныя Белстата.

Такім чынам, за год насельніцтва краіны скарацілася на 16,6 тысячы чалавек.

У 2018 годзе памёр 119.931 чалавек. Натуральнае змяншэнне насельніцтва склала 25.543 чалавекі. Для параўнання: у 2017 годзе натуральнае змяншэнне склала 16.755 чалавек.

Калі такая тэндэнцыя захаваецца, то мы зноў скоцімся ў 2013 год, калі быў зафіксаваны самы нізкі паказчык па колькасці насельніцтва Беларусі – тады ў краіне пражывала 9 млн 463,8 тысячы чалавек. З 2014-га гэтая лічба пачала пакрысе расці: на 1 студзеня 2017-га нас было ўжо 9,5 мільёна. Але зараз, як бачым, беларусаў зноў паменела…

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

**ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ**

# Не разлучымся!

Вясна набірае разгон. З аднаго боку, нас, народавольцаў, гэта радуе, а з другога – засмучае. Ведаем: многія нашы чытачы з першымі цёплымі дзянькамі з'язджаюць на лецішчы, што адмоўна адбіваецца на колькасці падпісчыкаў.

Не маючы падтрымкі з боку дзяржавы, рэдакцыі ўсё цяжэй і цяжэй зводзіць канцы з канцамі. Вось чаму мы звяртаемся да Вас, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі", з вялікай просьбай:

**не разлучайцеся з намі ні на адзін месяц.**

У тых, хто з вясны і да глыбокай восені пражывае на прыродзе, ёсць магчымасць пераадрасаваць падпіску на гэты перыяд у бліжэйшае ад дачы паштовае аддзяленне і там атрымліваць кожны чарговы нумар газеты. А калі Вы часта прыязджаеце ў горад, то дамоўцеся з паштальёнам, які абслугоўвае ваш квартал, і "Народная Воля" будзе Вас чакаць у аддзеле дастаўкі. Нарэшце, калі Вашы суседзі пастаянна знаходзяцца дома, папрасіце, каб яны ў аўторак і пятніцу забіралі газету з паштовай скрынкі; Вы прыехалі з дачы – ёсць што пачытаць!

**Не разлучымся, сябры!**

Нагадаем: падпісацца на "Народную Волю" на ІІ квартал можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваным пункце "Белсаюздруку" да 27 сакавіка. Калі ёсць фінансавыя цяжкасці, аформіце падпіску на месяц, потым прадоўжыце. Кошт месячнай падпіскі – 7 рублёў 20 капеек. Індывідуальны індэкс: 63222.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

**СІТУАЦЫЯ**

# Дзе дазволяць святкаваць Дзень Волі?

*На стадыёне "Дынама" праводзіць мерапрыемства забаронена.*

Учора заяўнікі правядзення Дня Волі на сталічнай арэне атрымалі адказ з Мінгарвыканкама: *«З улікам падрыхтоўкі нацыянальнага алімпійскага стадыёна «Дынама» да правядзення ІІ Еўрапейскіх гульняў лічым правядзенне мітынгу і канцэрта на дадзенай пляцоўцы немэтазгодным».*

*"Мы гатовы былі аплаціць усе выдаткі за арэнду пляцоўкі, таксама гэтае мерапрыемства магло стаць выдатным тэстам працы з масавымі мерапрыемствамі на стадыёне перад Еўрапейскімі гульнямі,* – напісаў на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" адзін з арганізатараў святкавання **Павел Белавус**. – *Хіба стадыёну не патрэбны грошы? І хіба мы яго разнеслі б сваім мерапрыемствам? Мы не ашалелыя фанаты "Зенита", якія ламалі крэслы на трыбунах, мы любім сваё, мы нармальныя адэкватныя людзі, якія хочуць правесці добрае і якаснае мерапрыемства, і гэтага хочуць тысячы людзей!*

*Але калі "Дынама" – гэта прынцыпова "не", то давайце разгледзім іншыя пляцоўкі для свята: каля Палаца спорту ці на плошчы Свабоды, дзе адбываецца шмат гарадскіх і рэспубліканскіх святаў".*

Зараз арганізатары чакаюць адказ, ці дазволяць ім адсвяткаваць Дзень Волі ў гэтых месцах. Заяўкі ўжо пададзены.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

# Пасля «Вялікай размовы» Алега Трусава паклікалі яшчэ на адну размову

*Выконваючы абавязкі рэктара ствараемага беларускамоўнага Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча распавёў "Народнай Волі", куды яго запрасілі пасля дыялогу з кіраўніком дзяржавы.*

Нагадаем, што падчас "Вялікай размовы з прэзідэнтам" ганаровы старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў адзначыў, што толькі адзін працэнт прававых актаў выдаецца ў краіне на беларускай мове.

У адказ Лукашэнка прапанаваў заняцца такімі перакладамі Беларускаму нацыянальнаму ўніверсітэту, які ствараецца.

*"Разгорнеш працу ўніверсітэта, ускладзём на яго абавязкі перакладу законаў на беларускую мову*, – заявіў беларускі кіраўнік. – *І нават плаціць будзем за гэта нейкія грошы*".

– Пасля таго як адбыўся дыялог, мне патэлефанавалі з Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў і запрасілі прыйсці на сустрэчу 7 сакавіка, – кажа **Алег ТРУСАЎ**. – Я, натуральна, не адмовіўся. На мерапрыемстве прысутнічалі больш за дзесяць юрыстаў высокага дзяржаўнага рангу, мы вялі размову каля паўтары гадзіны. Я, напрыклад, ізноў узняў пытанне, што ў нас некаторыя суддзі, не ведаючы роднай мовы, запрашаюць на працэсы перакладчыкаў. Юрысты не паверылі мне, што такое магчыма, і ў хуткім часе я ім прадстаўлю канкрэтныя доказы са стэнаграмамі з судоў. Размаўлялі мы таксама пра лёс нашага ўніверсітэта, супрацоўніцтва, пераклад законаў на беларускую мову.

Але самае цікавае, што высветлілася: насамрэч юрысты на ўсялякі выпадак робяць беларускамоўныя пераклады законаў і кладуць гэтыя недапрацаваныя "балванкі" ў шуфлядку. У мяне запыталіся: ці ў стане наш універсітэт займацца дапрацоўкай гэтых законаў? Для нас гэта не праблема, але гэта магла б рабіць і Акадэмія навук.

**– Што вы яшчэ прапанавалі?**

– У свой час Таварыства беларускай мовы зрабіла добры пераклад Грамадзянскага кодэкса, яго старшыня Алена Анісім пераклала таксама Закон аб дзяржаўных актах. Я і прапанаваў ім гэтыя дакументы.

Адным словам, дзяржаўныя чыноўнікі, якія раней пра нас, відаць, нічога не ведалі і не хацелі ведаць, пасля "Вялікай размовы" раптам зацікавіліся нашымі праблемамі.

**– Можа, гэта дапаможа хутчэй атрымаць і ліцэнзію для Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта?**

– Паводле маіх падлікаў, нам, каб падрыхтаваць усе дакументы для падачы іх на ліцэнзаванне, патрэбна яшчэ не менш за тры месяцы працы. Таму што напісаць навукова-метадычныя комплексы – гэта складана.

Хаця ўжо гатовы вучэбныя планы, будзем узгадняць іх у адпаведных камісіях. Зробім усё, каб універсітэт пачаў набор ужо ў наступным годзе. І адно магу сказаць дакладна: вышэйшая адукацыя на беларускай мове на сто працэнтаў будзе. У гэтым я не сумняваюся.

Дарэчы, я ўсё больш упэўніваюся, што і сярод высокіх чыноўнікаў шмат прыхільнікаў беларускамоўнасці. Падчас сустрэчы з кіраўніком краіны да мяне падыходзілі ў кулуарах як мінімум тры міністры і цікавіліся на беларускай мове лёсам універсітэта.

На мінулым тыдні я таксама сустракаўся з міністрам юстыцыі і быў прыемна здзіўлены, што ён таксама размаўляў са мной на цудоўнай беларускай мове. Раней такога не было.

**– Усё ж такі ці прымеце вы прапанову за пэўныя грошы рабіць пераклады законаў на беларускую мову?**

– Асабіста ў мяне няма вялікага жадання займацца гэтай справай, бо ўніверсітэт – не кантора, якая робіць пераклады. Але, як ужо казаў, па дамове падраду можна было б займацца гэтай справай. Праўда, я зразумеў, што пакуль ніякага жадання плаціць за пераклады ў дзяржаўных чыноўнікаў няма.

**Алесь СІВЫ.**

**ТРАГЕДЫЯ**

# Маці і дзіця пахавалі ў святочны жаночы дзень…

У Салігорску – шок, бяда.

5 сакавіка ў 21 гадзіну 30 хвілін 38-гадовая жыхарка горада Вольга Вусік нарадзіла ў радзільным аддзяленні мясцовай бальніцы мёртвага хлопчыка, а 6 сакавіка сама памерла ў рэанімацыі.

Як стала вядома, у Вольгі, якая працавала ў адной з прыватных фірмаў горада, гэта была першая цяжарнасць. Працякала яна, са слоў яе блізкіх, без ускладненняў. Як расказаў журналістам яе муж Зміцер, Вольга назіралася ў жаночай кансультацыі Салігорскай цэнтральнай раённай бальніцы, а УГД рабіла ў прыватных медыцынскіх установах Мінска. Здавалася, усё было добра.

Тэрмін родаў жанчыне вызначылі на 24 сакавіка. Увечары 3 сакавіка ў Вольгі падскочыў ціск да 145, з гэтай нагоды раніцай 4 сакавіка муж адвёз яе ў жаночую кансультацыю. Адтуль яе накіравалі ў бальніцу ў аддзяленне паталогіі.

Вядома, што 4 сакавіка ёй ставілі кропельніцы, давалі таблеткі, каб знізіць ціск. 6 сакавіка, як распавёў муж Вольгі, ёй збіраліся рабіць кесарава сячэнне. 5 сакавіка ўрачы выявілі слабае сэрцабіццё ў дзіцяці, таму вырашылі рабіць кесарава ў той жа дзень. Але праз нейкі час, бліжэй да абеду, медыкі сказалі, што сэрца дзіцяці больш не б'ецца. Кажуць, што пасля гэтага ўрачы адмянілі кесарава, вырашылі, што жанчына будзе нараджаць мёртвае дзіця натуральным шляхам…

5 сакавіка Зміцер паехаў у радзільню, дзе яму сказалі, што ў парадзіхі адкрыўся крывацёк, стан яе цяжкі. Праз суткі Вольга памерла ў рэанімацыі. Яе і сына пахавалі 8 сакавіка, у дзень, які лічыцца святочным для жанчын.

У заключэнні пра смерць прычына смерці закадзіравана як "072.1". Гэта азначае "крывацёк атанічнага характару ў раннім пасляродавым перыядзе".

Спадзеючыся праясніць сітуацыю, учора я спрабавала датэлефанавацца да першых асоб у кіраўніцтве Салігорскай цэнтральнай раённай бальніцы. Але дарэмна, не атрымалася. Адказалі толькі па тэлефоне загадчыка аддзялення паталогіі цяжарных. На сайце Салігорскай ЦРБ значыцца, што аддзяленне паталогіі цяжарных узначальвае Галіна Уладзіміраўна Каралькова, але мне адказаў мужчына. Ён не пажадаў назваць сваё прозвішча і імя. Сказаў толькі, што факт смерці Вольгі Вусік пацвярджае, што калі б маглі, то выратавалі б жанчыну. Яшчэ дадаў, што ўсе каментарыі толькі пасля медыцынскай камісіі.

Загадчыца аддзялення рэанімацыі Людміла Леанідаўна Прыма, якой я таксама датэлефанавалася, сказала, што ў аўторак 12 сакавіка ў Салігорскую цэнтральную раённую бальніцу павінна прыехаць камісія з Мінска з Міністэрства аховы здароўя. Каментаваць нешта ў сувязі са смерцю жанчыны адмовілася, спаслалася пры гэтым на тое, што адміністрацыя дала супрацоўнікам параду нічога не каментаваць да высноў камісіі.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 САКАВІКА 2019 г.

НУ І НУ!

## Двойчы канфіскавалі адзін і той жа аўтамабіль

Днямі жыхарку Лунінца за кіраванне машынай у стане алкагольнага ап’янення пакаралі 2 гадамі «хатняй хіміі», штрафам у 150 базавых велічынь (3825 рублёў) і канфіскавалі аўтамабіль у даход дзяржавы. Але цікава, што гэту ж даму ўжо прыцягвалі да адказнасці за кіраванне ў п’яным выглядзе і тады таксама, апроч усяго, канфіскавалі машыну. Аднак сваякі выкупілі транспартны сродак на аўкцыёне. Жанчына зноў села нецвярозай за руль і трапіла ў поле зроку супрацоўнікаў ДАІ.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Те, кто будит нашу память

Новость, которая прошла почти незамеченной: общественное движение «За Свободу», во главе которого стоит Юрась Губаревич, наградило Игоря Станкевича премией имени Виктора Сырицы.

Человек, не сведущий в жизни белорусских регионов, прочитав эту информацию, может быть, даже не задумался, чего она на самом деле стоит. А событие между тем вполне знаковое.

Виктор Сырица, руководитель барановичской организации «За Свободу», был, что называется, из породы активных деятелей. Знавший и любивший историю не только всей Беларуси, но и родного региона, Виктор Антонович не мог довольствоваться спокойной жизнью. В 2005 году ему предложили покинуть колледж, где он преподавал, за организацию встречи с тогда опальным Александром Милинкевичем. Сырица ушел в малый бизнес, но этим ограничить свою активность просто не мог. Он занимался мемориализацией памятных исторических мест, проводил краеведческие чтения. В 2013 году к 150-летию восстания провел фестиваль под Миловидами – на месте битвы повстанцев с царскими войсками. Его знали и уважали все, кто интересовался историей, потому что Сырица не ждал премий за духовное возрождение – он просто работал ради этого возрождения.

Премия его имени была учреждена для того, чтобы отмечать таких же, каким был он, – региональных деятелей, премий не ждущих, а работающих ради памяти. И в этом году она была присуждена, я считаю, очень достойному человеку.

Так получилось, что Игорь Станкевич, бывший для меня когда-то «еще одним человеком из интернета», буквально ворвался в жизнь нашей семьи. Его гражданская кампания «Кобыляки. Расстрелянные в Орше» позволила моей жене Марине узнать, как погиб ее дед и его родственники, арестованные во время «великих репрессий» сталинской эпохи. Хотя бабушку и уверяли, что он жив, и даже принимали некоторое время передачи, дед уже лежал в общей могиле под Оршей. И сколько еще таких, как Марина, узнали о судьбах своих ближайших предков, ведь родной дед – это совсем близко…

И, если задуматься, получается, что о трагедии Куропат с момента публикации первой статьи Зенона Позьняка и Евгения Шмыгалева знает и помнит весь мир, и президент США счел своим долгом приехать туда во время единственного визита своего в Беларусь и поклониться памяти жертв бесчеловечного сталинского режима. А Кобыляки – что это? Место регионального захоронения таких же, только неизвестных, забытых миром?

Но посмотрите. Кобыляки – это под Оршей. А деда Марины арестовали в Койданове, в сорока с небольшим километрах от Минска. А под Оршей просто расстреляли и закопали бездвижный труп в землю. Но ведь рядом положили не только оршанцев: наверняка везли туда еще живых со всей белорусской земли, а там расстреливали и прятали. И региональная, казалось бы, инициатива по увековечиванию памяти жертв касается на самом деле множества семей, члены которых, быть может, ни разу и в Орше-то не были (не сложилось).

Жизнь белорусского государства не ограничивается Минской кольцевой дорогой. И историческая память не ограничивается трудами профессиональных ученых из Института истории Национальной академии наук или университетов. Нашу память будят прежде всего такие деятели, каким был Виктор Сырица, каков есть Игорь Станкевич. Спросите у любого гродненца, кто такой Алесь Гостев, – и вам ответят с гордостью, что это лучший знаток истории нового Гродно, Гродно XX века. Человек, который будил и будит патриотические чувства во многих поколениях горожан. А ведь он родился не в Гродно – в Калининграде; просто родители, когда Александру не исполнилось даже года, переехали в Гродно. И благодаря Алесю Петровичу и его коллегам, есть сегодня музей истории педагогики Гродненщины, разработаны экскурсионные маршруты по городу.

Виктор Сырица не жаловался на то, что ему мешает власть. И Игорь Станкевич не жалуется. И Алесь Гостев не жалуется. Они – деятели; они знают, что можно самим сделать дело, решить вопрос. И если без власти никуда – ну что ж, нужно идти к власти, разговаривать с ней, искать тех, кому точно так же, как тебе, дорога твоя земля. Не только Беларусь как единое целое – но и город, поселок, деревня, улица, дом. Только реальное дело сплачивает, объединяет белорусов, превращает нас из одиночек – в народ, в культурную и политическую нацию, в субъект исторического процесса.

Именно поэтому если вдруг вы увидите на улице своего города пожилого человека, показывающего группе школьников или студентов на кованые решетки балконов в домах довоенной постройки, рассказывающего что-то о храме или просто о доме, в котором, может быть, жили поэт или поэтесса, – остановитесь на минуту, послушайте их. А потом спросите, можно ли чем-то им помочь.

А такие люди найдутся всегда. Новый лауреат премии имени Виктора Сырицы Игорь Станкевич – молодой еще человек, моложе меня.

ПРАТЭСТ

# Абарона Курапатаў: беларускае грамадства яшчэ не сказала свайго апошняга слова

Як вядома, афіцыйная пазіцыя ўлады па Курапатах была агучана падчас “Вялікай размовы”, якую нядаўна праводзіў Аляксандр Лукашэнка. Ён ясна даў зразумець: рэстаран “Поедем поедим» будзе працаваць і надалей.

*“...Падстаў закрываць яго няма, людзям жа патрэбна перакусіць”*, – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Дасталося абаронцам Курапатаў і за тое, што ў Курапатах стаяць “лішнія” крыжы:

*“Навошта вы гэтыя крыжы па перыметры паставілі? Вам іх царква дазваляла ставіць?”*

Адзін з самых актыўных удзельнікаў абароны Курапатаў, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” Павел Севярынец у размове з “Народнай Воляй” адзначыў, што, нягледзячы на заяву Аляксандра Лукашэнкі, пратэст будзе працягнуты.

*– Нягледзячы на словы Лукашэнкі пра “лішнія” крыжы, іх пакуль ніхто не чапае. Што да пратэсту, то пакуль мы не бачым падстаў для таго, каб згарнуць акцыю*, – кажа Севярынец. – *Варта будзе працягвацца. І не ў заявах Лукашэнкі тут справа. Праблема тут больш глыбокая: на нашу думку, за рэстаранам стаяць, скажам так, антыбеларускія сілы. Калі хочаце, яўныя прадстаўнікі “русского мира”. І, збудаваўшы рэстаран, можна сказаць, на костках расстраляных, гэтыя людзі ўваткнулі іглу ў нервовы вузел Беларусі – у Курапаты. Мэта пратэстоўцаў застаецца нязменнай – закрыццё альбо перанос рэстарана ў іншае месца. Калі беларусы сцярпяць наяўнасць рэстарана ў Курапатах – Беларусь можна будзе браць голымі рукамі.*

*Са свайго боку, мы яшчэ ў канцы лютага разаслалі чарговыя звароты па розных уладных інстанцыях. Патрабаванне адно: зачыніць рэстаран. Адказаў пакуль няма.*

*Акрамя таго, мы працягваем работу з пастаўшчыкамі прадуктаў у “Поедем поедим” – заклікаем адмовіцца ад супрацоўніцтва.*

*Я ўпэўнены: беларускае грамадства яшчэ не сказала свайго апошняга слова. Мы просім вядомых беларусаў выказацца. Вось Лукашэнка ўпершыню за дзевяць месяцаў выказаўся – патрэбны адказ грамадства.*

*А нам, пратэстоўцам, застаецца адно – прыходзіць у Курапаты са сцягамі, раздаваць буклеты і інфармаваць людзей, што рэстарана тут быць не павінна.*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# У «справе медыкаў» – новы фігурант?



Учора прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова паведаміла, што гендырэктару кіруючай кампаніі холдынга “Белфармпрам” прад’яўлена абвінавачанне па ч.3 арт.430 КК – атрыманне хабару. Вядома, што “Белфармпрам” узначальвае **Валерый Шаўчук**.

У нядаўнім мінулым Шаўчук – намеснік міністра аховы здароўя. Ён быў намеснікам яшчэ **Васілія Жарко** і займаў гэтую пасаду з 2006 года. Дарэчы, менавіта ў 2006-м міністэрства і ўзначаліў Жарко.

У 2014 годзе ў медыцынскім ведамстве было вырашана скараціць колькасць намеснікаў міністра з пяці да чатырох, і Валерый Шаўчук стаў намеснікам міністра – дырэктарам Дэпартамента фармацэўтычнай прадукцыі. Прычым па спецыяльнасці ён урач-гігіеніст і эпідэміёлаг. Яшчэ праз тры гады, у верасні 2017-га, на базе дэпартамента быў створаны фармацэўтычны холдынг «Белфармпрам», які і ўзначаліў Валерый Шаўчук.

У склад холдынга ўваходзяць беларускія фармацэўтычныя прадпрыемствы, а з канца мінулага года, як расказваў у адным са сваіх інтэрв’ю Валерый Шаўчук, актыўна абмяркоўвалася пытанне аб уваходжанні ў холдынг дыстрыб’ютараў недзяржаўнай формы ўласнасці.

Як вядома, у лютым гэтага года адзін з былых намеснікаў міністра аховы здароўя, **Ігар Ласіцкі,** быў прызнаны вінаватым у хабарніцтве і асуджаны на 6 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КАРТИНА ЖИЗНИ

# Написал рядом: «по принуждению»

*Много ли пенсионеров Беларуси могут позволить себе пройти медицинское обследование?*



Солигорский пенсионер Александр Николаевич Цецура, после того как решил обследоваться в одной из двух местных поликлиник, считает, что далеко не всем ушедшим на заслуженный отдых это по карману. Он был уверен, что медицина у нас до сих пор полностью бесплатная, ведь Конституция страны это гарантирует. Но вышло не совсем так.

– В последнее время я чувствовал себя не в тонусе. Да и не молодой уже… Решил проверить, все ли благополучно у меня с простатой, – наслышан, что онкология простаты у мужчин после 45 лет не редкость. Беспокоился я также, что у меня не совсем в норме кровоток в области шеи – есть, на мой взгляд, коекакие признаки этого. Мой родной брат перенес инсульт, я знаю, какое это тяжелое заболевание. И если инсульт был в роду у кого-нибудь, то значительно повышается риск, что он будет и у другого родственника. Решил не искушать судьбу и пройти как можно скорее обследование простаты на онкологию и сделать УЗИ сосудов шеи, – рассказал Александр Николаевич.

По словам Александра Цецуры, он обратился в недавно открытую Солигорскую поликлнику №2. Уролог сказал ему сдать кровь на платной основе на простатический специфический антиген (ПСА) и с пометкой «платно» выписал направление на анализ.

Невропатолог, как утверждает пенсионер, проинформировала его, что пройти УЗИ возможно только на платной основе. А когда Александр Николаевич поинтересовался, можно ли все-таки записаться в очередь на бесплатное прохождение УЗИ, услышал, что такой очереди нет.

– Меня больше всего возмутило то, что, по словам уролога, бесплатно анализ крови для выявления онкологии простаты делают людям до 65-летнего возраста, а те, кому больше, за анализ должны заплатить. И то, что бесплатно пенсионер не может пройти УЗИ даже в порядке очереди.

Я пообщался и с заведующей поликлиникой №2. Она подтвердила, что анализ крови на ПСА мне придется сделать на платной основе, но пообещала, что в очередь на УЗИ на бесплатной основе меня запишут. Сказала, что необходимое оборудование у них скоро установят.

Александр Николаевич рассказал, что звонил на «горячую линию» Минздрава. Хотел узнать, почему анализ крови при обследовании пенсионеру бесплатно уже не делают, а УЗИ доступно только за деньги. А если не за деньги, то надо обивать пороги медицинского начальства.

– При этом я ссылался на Конституцию Республики Беларусь, которая гарантирует гражданам страны право на охрану здоровья, бесплатное лечение в государственных учреждениях здравоохранения, создание условий доступного для всех медицинского обслуживания.

**– Что вам ответили на «Горячей линии»?**

– Ответили, что сочувствуют, но ничем помочь не могут.

Мужчина кровь на анализ ПСА все-таки решил сдать. Ему пришлось оформить в поликлинике договор на оказание платных медицинских услуг. Анализ крови из вены обошелся в 15 рублей 57 копеек.

– На этом типовом договоре рядом с напечатанными словами : «Прошу оказать мне медицинские услуги» я в скобках написал от руки «по принуждению». Сотрудница поликлиники, у которой я оформлял эту бумагу, выразила недовольство: мол, зачем вы дописали «по принуждению», никто ведь не заставляет вас сдавать этот анализ. Конечно, не заставляет, но не по своей же воле я плачу за анализ деньги.

Александр Цецура также упомянул, что уже после хождения по кабинетам поликлиники узнал, что существует Государственная программа в здравоохранении на 2016–2020 годы, в рамках которой проводится скрининг рака предстательной железы у мужчин возрастной группы 50–65 лет. То есть если бы он обратился к урологу хотя бы год назад, то за тот же анализ крови ему не нужно было бы платить.

– Я не знал, что такая программа есть. Никто меня не приглашал в поликлинику обследоваться раньше! – удивлен пенсионер. – С другой стороны, почему под программу попали мужчины только до 65 лет, почему, если мужчинам 66 лет и больше, то они должны уже за свой счет проверяться? Как-то даже странно выглядит, навевает разные нехорошие мысли. Тем более что с увеличением возраста, как правило, все меньше шансов подработать, а хвори, наоборот, одолевают. Пенсии же у большинства такие, что на платное качественное обследование найти деньги далеко не все в состоянии. Анализ крови ведь в этом плане нередко только один из компонентов. Да и 15 рублей 57 копеек, что я отдал за анализ, для многих из нас дорого. Немало моих знакомых пенсионеров экономят буквально на всем, чтобы как-то дотянуть от пенсии до пенсии. Да что говорить, знаю некоторых из них, которым трудно деньги собрать, чтобы зубы себе самые простые вставить. Так и шамкают. А цены на все, на те же лекарства, продолжают расти. Бесплатная медицина в стране постепенно превращается в гибридную. То за одно, то за другое пациентам приходится платить. Что в будущем ожидает рядовых жителей нашей страны при нынешних пенсиях, зарплатах?

***

Заместитель заведующей поликлиникой Наталья Николаевна Кондратенко в разговоре по телефону с корреспондентом «Народной Воли» тоже вспомнила про скрининг рака предстательной железы. Да, скрининг проводится в рамках Государственной программы «Здоровье народа и демографическая безопасность Республики Беларусь на 2016–2020 годы», охватывает мужчин в возрасте 50–65 лет. Те, кто попадает под это обследование в рамках упомянутой программы, сдают анализ крови бесплатно.

Узнала я также, что в очередь на бесплатное прохождение УЗИ записывают, но те, кто желает обследоваться по собственной инициативе, как правило, должны заплатить.

Позвонила я и медицинскому регистратору, который занимается оформлением договоров с пациентами на предоставление им платных услуг. Номер телефона – **24-56-81**. Поинтересовалась, не представляясь, как мне пройти УЗИ. Услышала, что УЗИ в поликлинике №2 пока нет, но мне могут дать номер телефона поликлиники №1, по которому мне все объяснят и подскажут, где записаться.

Вообще, на сайте Солигорской центральной районной больницы целый перечень платных услуг, включая УЗИ различных органов. И это нормально, что есть возможность пройти платное обследование. Но также должна сохраняться в целом в стране возможность пройти аналогичное обследование и тем, кому не по карману платное. Не по карману, исходя из их нынешних доходов. Которые не всегда зависят от добросовестности и трудолюбия рядового человека, а нередко просто вызваны его возрастом и состоянием здоровья. Можно еще раз и Конституцию Республики Беларусь в связи со всем этим вспомнить. Хотя пенсионер Александр Николаевич Цецура выше уже фактически изложил содержание ее статьи 45.

Можно еще, к слову, упомянуть и о том, что выявление рака на ранней стадии, как, впрочем, и ряда других опасных заболеваний, обходится государству во много раз дешевле, чем их лечение, когда они в запущенной форме. Дело не только в восстановлении здоровья и сохранении жизни людей – что само по себе должно являться одной из самых главных, неоспоримых ценностей для страны, но и в рачительном расходовании средств, экономике в перспективе.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

## Когда верстался номер

Комментарий по поводу истории Александра Цецуры в частности и проведения скрининга рака предстательной железы в Солигорском районе в целом я пыталась получить и у Олега Валерьевича Черника – заместителя главного врача по медицинскому обслуживанию населения УЗ «Солигорская центральная районная больница». Однако он от комментария на данную тему фактически уклонился. Но некоторые изменения в ситуации Александра Цецуры после моего звонка произошли.

Как рассказал пенсионер, ему предложили пройти УЗИ простаты бесплатно, и он это уже сделал в поликлинике №1. Также уролог выписал ему направление на бесплатный анализ крови на ПСА с пометкой «скрининг». «Только зачем мне еще раз делать этот анализ, если я уже сдал его, заплатив за это?» – удивлен Александр Николаевич.

ЧУЛІ?

## Уладзіслава Цвірко і Руслана Шуцько ўзнагародзілі

*Вучні 10-га «Б» класа СШ №2 г.Стоўбцы ратавалі настаўніцу ад забойцы-старшакласніка, які кінуўся на яе з нажом.*

Гэтае жахлівае здарэнне адбылося, як вядома, 11 лютага. Тады ахвярамі нападніка сталі настаўніца Марына Пархімовіч і 11-класнік Саша Раманаў. Уладзіслаў Цвірко і Руслан Шуцько былі паранены і пэўны час правялі ў шпіталі.

Школьнікі за праяўленыя мужнасць і адвагу ўзнагароджаны нагрудным знакам МУС «За садзейнічанне». Уручыў іх міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, які ўчора наведаў стаўбцоўскую школу.

ЖАХ!

## Судзяць за гвалт

*У Слуцкім раённым судзе пачаўся працэс над былым намеснікам дырэктара Мінскага абласнога кадэцкага вучылішча Анатолем Булгаком.*

Былога кіраўніка абвінавачваюць паводле часткі 3 арт.428 – у перавышэнні ўлады з ужываннем гвалту і знявагі. Яму пагражае да 8 гадоў зняволення. Паводле вынікаў следства, Булгак зневажаў і збіваў навучэнцаў, часам для здзекаў выкарыстоўваў іголкі.

Віну абвінавачаны не прызнае.

ФАКТ

## Больш хабарніцтва, чым у Расіі

Калі ў Беларусі на 10 тысяч насельніцтва зарэгістравана 2 злачынствы, якія праходзяць па артыкуле “хабарніцтва”, то ў Расіі – усяго 0,4. Такія дадзеныя ўтрымліваюцца ў статыстычным зборніку “Беларусь і Расія, 2018”, які апублікаваў Белстат.

У той жа час у Расіі фіксуецца значна больш супрацьпраўных дзеянняў на душу насельніцтва, чым у РБ. У прыватнасці, у Расіі здзяйсняецца амаль у два разы больш забойстваў і замахаў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, крадзяжоў, рабаванняў і разбояў.

У той жа час Беларусь апярэджвае Расію па колькасці кватэрных крадзяжоў.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Глашатаі вайны

Неяк трапіў мне ў рукі часопіс “Сибирские огни”, што выдаецца ў Новасібірску. Там я са здзіўленнем убачыў нізку сваіх вершаў у перакладзе Уладзіміра Бяразева – галоўнага рэдактара часопіса. Наконт публікацыі ён са мной не дамаўляўся, як і з іншымі беларускімі паэтамі, чые вершы таксама патрапілі ў той нумар.

Параіліся мы з калегамі, трошкі паабураліся, але ўрэшце вырашылі лічыць нашы творы гуманітарнай дапамогай Сібіры. Недзе ў глыбіні душы нас цешыла тое, што сучаснай беларускай літаратурай зацікавіліся менавіта сібіракі. Калі яны там апошні раз беларускага пісьменніка бачылі? Алеся Гаруна да рэвалюцыі, Уладзіміра Жылку ў 1933-м, Ларысу Геніюш у 1950-я… Усіх – ссыльнымі і вязнямі. Хай жа вольных і незалежных пабачаць.

Здарэнне тое мінулася і амаль забылася. Зноў успомніць пра яго прымусілі падзеі ва Украіне. Уладзімір Бяразеў, пакінуўшы рэдактарскае крэсла (быў зняты з пасады за фінансавыя махінацыі), з’явіўся ў Данецку, дзе ўступіў у баявы атрад “Оплот”. Гэта ж не паленаваўся прыехаць за тысячы кіламетраў з Новасібірска, каб даць адпор, як сам напісаў, “майданутым бандеровцам”. Ім жа Бяразеў прысвяціў і свае новыя вершы: “Хромая свобода кричит в инвалидной коляске кровавое “геть”. / Не по принужденью я выйду на битву за русский авось…”

Каму толькі не даліся ў знакі тыя “рускія авосі”! Любы вазок на восях трымаецца, а рускі – на авосях… “Нас вывозит авось” – як спяваў Мікалай Карачанцаў у вядомым мюзікле. Такое ўражанне, што рускі чалавек на любую справу ідзе з цэлай авоськай тых авосяў.

У ваяўнічага экс-рэдактара Бяразева, які пагарэў на “Сибирских огнях”, знайшлося нямала аднадумцаў у адносінах да ўкраінцаў, якія ваююць на Данбасе. “Фашиствующей мразью” назваў іх вядомы пісьменнік-фантаст Сяргей Лук’яненка. А ўсю Украіну – “проклятой землёй, которая три поколения будет избавляться от подлости”.

Адзначылася ў хоры апантаных украінафобаў і паэтка-шасцідзясятніца Юна Морыц: “Когда свободу возлюбя, / фашист отправит в гроб тебя, – / Не ссорься с ним, он – твой сосед, / А не фашистский людоед!” Пра каго гэта яна? Можа, пра 1941 год, пра Бабін Яр? Ды не, пра сучаснікаў-украінцаў.

Чамусьці многія рускія пісьменнікі на фоне падзей у Данбасе парабіліся сапраўднымі глашатаямі вайны. Самы ваяўнічы сярод іх – публіцыст Аляксандр Праханаў, які без лішніх цырымоній на розных прапагандысцкіх тэлешоу, якія актывізаваліся ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі ва Украіне, з пенай на вуснах заклікае “брать, пока не поздно, Киев”.

Дакладны дыягназ сваім калегам, якія самапрызваліся на “данбаскі фронт”, паставіў празаік Віктар Ерафееў, які абагульніў сказанае і напісанае супляменнікамі так: “Мы даже не скрываем наше чувство превосходства перед нашим младшим братом, украинцем, или, скорее сказать, хохлом. Мы его зовём к себе как заблудшую овцу, и когда эта овца к нам вернётся, её нужно будет как следует взгреть”.

Небяспечныя вірусы ў камп’ютарах лёгка выяўляюцца і знішчаюцца адмысловымі праграмамі. Але які “касперскі” зможа знішчыць імперскі вірус у свядомасці нашага ўсходняга суседа? І вірус той не Праханаў з Юнай Морыц прыдумалі. На вялікі жаль, яго можна заўважыць шмат у каго з рускіх класікаў. Хто там да нас найбліжэй? Пачытайма нобелеўскага лаўрэата Іосіфа Бродскага: “Прощевайте, хохлы, пожили вместе – хватит. / Плюнуть, что ли, в Днепро, может, он вспять покатит”. І далей зусім зняважліва – пра “брехню Тараса”. Тут ужо не вірус, а падазрэнне на доўгі час хаваную форму хранічнай хваробы.

Бродскага з лёгкай рукі Ганны Ахматавай называлі Малы Ося – у параўнанні з Осяй Вялікім – Мандэльштамам. А што сама Ганна Андрэеўна? У яе дзённіках знаходзім недвухсэнсоўны запіс: “У меня в Киеве была очень тяжёлая жизнь, и я страну ту не люблю и язык. Мамо, ходимо – не люблю”. Ці не ад Ахматавай падхапіў вірус нелюбові да Украіны Малы Ося? Падхапіў, каб падгадаваць і пры зручным выпадку пусціць далей.

Што ж правакуе таленавітых творцаў услаўляць захопніцкую вайну? Ёсць гэткі медыцынскі тэрмін “фантомны боль” – калі раптоўна пачынае балець ампутаваная рука ці нага. Фантомным болем імперыі можна назваць хваробу, якую сёння перажывае Расія. Ёй баліць тое, што даўно ёй не належыць, з чым яна ніяк не можа змірыцца. І ад гэтага фантомнага болю няма лекаў. Расія перастане на яго пакутаваць толькі тады, калі адмовіцца ад сваіх вялікадзяржаўных амбіцый. А яны на нашых вачах толькі большаюць.

Поруч з хворым суседам жыць няўтульна, нават небяспечна. Але нічога не паробіш – суседзяў не выбіраюць.

Прызнацца, Юну Пятроўну Морыц я паспрабаваў далікатна паўшчуваць у “Фэйсбуку” – мы былі сябрамі. Яна мяне імгненна забаніла. Не пачула, не зразумела. Куды ж падзелася пушкінская “всемирная отзывчивость”? Як гэта сумна, калі паэты, якія павінны адгукацца на чужы боль, ператвараюцца ў сляпых і глухіх глашатаяў вайны.

ЧУЛІ?

## Беларусь дваццатая...

*Злучаныя Штаты Амерыкі застаюцца лідарам у экспарце ўзбраенняў*

Стакгольмскі міжнародны інстытут даследавання праблем міру (SIPRI) апублікаваў даклад аб экспарце зброі ў сьвеце. Дырэктар праграмы SIPRI **Од Фляран** паведаміла, што разрыў паміж ЗША і астатнімі дзяржавамі ў гэтай галіне вырас. У перыяд 2014–2018 гг. аб’ём экспарту асноўных відаў узбраення з ЗША быў на 75% большы, чым з Расіі, якая займае другое месца ў гэтай статыстыцы.

Трэцяе месца ў Францыі, якая за апошнія 5 гадоў нарасціла экспарт узбраенняў на 43%. Беларусь у дакладзе названа 20-й. Наша краіна ў 2014–2018 гадах мела 0,3% рынку ўзбраенняў.

ОПЫТ ЕВРОПЫ

# Как богатая нефтью Норвегия стала лидером внедрения электромобилей




Власти Норвегии уверены: электромобиль должен стоить дешевле машины с двигателем внутреннего сгорания. Только так страна сможет полностью перейти на экологичный транспорт к 2025 году.

В 2018 году власти Норвегии потратили порядка 1 млрд долларов на поддержание системы льгот для покупателей электрокаров. В 2021 году нынешнюю систему упразднят, но правительство по-прежнему намерено поддерживать автомобилистов, которые покупают машины на электротяге.

Электрокары в стране уже стали более выгодной покупкой, чем традиционные аналоги. Правительство отменило таможенные пошлины на импорт электромобилей, а также освободило покупателей таких транспортных средств от налогов при регистрации и покупке.

Кроме того, электрокарам позволено бесплатно перемещаться на паромах и передвигаться по выделенным полосам для автобусов в час пик. В будущем при назначении пошлин и сборов норвежцу за рулем электрокара позволят платить в два раза меньше, чем водителю машины с ДВС.

Постепенно это нововведение отменят, но при этом владельцев бензинового и дизельного транспорта обяжут платить налоги по повышенной ставке. В правительстве подчеркивают: главная задача – это не установление льгот, а введение запретительных налогов на машины, которые загрязняют воздух.

«Автомобиль с нулевыми выбросами всегда должен стоить дешевле обычного», – считает министр по охране окружающей среды и климата Ола Эльвестуен. Именно он предложил амбициозный план: к 2025 году ограничить продажу машин с ДВС в Норвегии.

По данным New York Times, треть новых автомобилей в стране оснащена аккумулятором и системой подзарядки. Этот показатель доходит до 45% и даже до 60%, если учитывать не только электрокары, но и гибриды. Для сравнения: в Европе и США доля электромобилей едва доходит до 2%.

Норвегия – одна из богатейших стран Европы, и немалую роль в этом сыграла продажа углеводородов, от которых сегодня хотят отказаться многие страны. Около 36% продаваемых в Норвегии автомобилей – это внедорожники, адаптированные к суровым зимним условиям. Model X от Tesla стоит на норвежском рынке 106 тысяч долларов. Для сравнения: бензиновый кроссовер Volvo XC90 с учетом всех наложенных пошлин обойдется в 107 тысяч долларов. В США та же модель стоит 47 700 долларов.

Наибольшей популярностью в Норвегии пользуются именно машины Tesla. Однако электрокаров хватает не всем. Иногда норвежцам приходится ждать поставок электромобилей целый год. По сведениям NRK, в списке ожидания числится порядка 30 тысяч человек.

ПУЛЬС

## Против Brexit

Шотландская национальная партия будет инициировать проведение референдума о независимости Шотландии от Великобритании после Brexit. Об этом заявил пресс-секретарь партии депутат Ян Блэкфорд.

Как известно, во время референдума о выходе страны из ЕС, который имел место в 2016 году, Англия и Уэльс проголосовали преимущественно за это, в то время как Шотландия и Северная Ирландия – против. Все британские регионы сейчас обеспокоены возможным негативным влиянием Brexit на их экономическое положение.

## Китай приостановил полеты Boeing 737-8




Такое решение принято после недавнего крушения аналогичного лайнера в Эфиопии, в результате которого погибли все 157 человек, находившиеся на борту. За последние пять месяцев это уже вторая катастрофа Boeing 737 MAX 8. В конце октября прошлого года Boeing 737 MAX 8 индонезийской компании Lion Air упал в Яванское море вскоре после вылета из аэропорта Джакарты. Погибли 189 человек. Тогда пилоты не могли справиться с автоматической системой, предотвращающей задирание носа самолета, потерю тяги и срыв в штопор.

Boeing 737 MAX – четвертое поколение самолетов «Боинг 737», которое пришло на смену Boeing 737 Next Generation. Первый полет этой модели состоялся в январе 2016 года. Самолет может перевозить 162–175 пассажиров.

## Только женщины



НАСА объявило о первой в истории космической миссии, которую выполнят исключительно женщины. Их будет четыре: Энн Макклейн и Кристина Кох выйдут в открытый космос, примерно в 400 км над Землей, чтобы заменить солнечные батареи МКС. При этом с Земли руководить полетом будет Мэри Лоуренс, а за пульт управления космической прогулкой встанет Джеки Кейги.

Макклейн уже находится на борту МКС с декабря прошлого года. Кристина Кох присоединится к космическому экипажу через неделю, 14 марта. Выход Макклейн и Кох в открытый космос запланирован на 29 марта.

НУ И НУ!

# А мог бы и не выиграть 273 миллиона долларов!

*Американец Майк Вейрски из штата Нью-Джерси едва не лишился выигрыша в 273 миллиона долларов, после того как забыл счастливый билет на кассе.*

Мужчина на протяжении года находился в поисках работы. Он тратил около 20 долларов в неделю на покупку лотерейных билетов, однако спустя какое-то время прекратил игру из-за финансовых трудностей.

За две недели до выигрыша Вейрски снова приобрел несколько билетов и отложил их на кассе в сторону, чтобы убрать кошелек. Затем Майк отвлекся на телефонный звонок и вышел из магазина с пустыми руками. Только на следующий день он вспомнил о билетах и вернулся за ними.

Как оказалось, один из покупателей заметил, что Вейрски оставил свои билеты на кассе, и отдал их продавцу. Сотрудник магазина сохранил их до возвращения забывчивого покупателя.

Спустя два дня 54-летний американец проверил результаты розыгрыша Mega Millions и обнаружил, что сорвал куш. «Я не мог поверить в свою удачу после всех этих лет игры, – признался он. – Выигрыш изменит всю мою жизнь, поскольку я был безработным». Вейрски отметил, что первым делом планирует приобрести два автомобиля для себя и матери, а также выразил желание найти незнакомца, нашедшего билеты и отдавшего их кассиру, чтобы лично его отблагодарить.

НАКАНУНЕ ВЫБОРОВ

# Отзовут ли из Киева посла США в Украине Мари Йованович?

*События в Украине перешли в новую острую фазу. Прошедшая неделя достаточно убедительно это показала, в полной мере демонстрируя сложившуюся в стране ситуацию. Началась неделя с резкого и весьма неожиданного заявления посла США в Украине* ***Мари Йованович****.*

В совсем не свойственной для дипломатов манере она обозначила ряд острых проблем Украины. Ее речь за три недели до выборов была посвящена не каким-то невероятным успехам президента Петра Алексеевича Порошенко, а как раз наоборот: *«Все более понятно, что возможность для изменений в Украине, которая выпадает однажды на поколение и за которую была заплачена такая высокая цена пять лет назад на Майдане, еще не привела к таким реформам в сфере борьбы с коррупцией или утверждения верховенства права, которых действительно ожидают и которых заслуживают украинцы»*.

Выступление Мари Йованович можно разбить на несколько блоков. Ни для кого не секрет, что США предоставляют Украине в разных формах сотни миллионов долларов, способствуя переоснащению украинской армии и государственных институтов, направленных на борьбу с коррупцией. В течение последних двух недель Украину сотрясали коррупционные скандалы. Вышли в свет очередные журналистские расследования, которые демонстрируют факты того, что приближенные Петра Порошенко наживаются на оборонных заказах. Семья близкого друга президента, замыкая контракты на подконтрольные фирмы, спекулирует, в разы завышает цены на продукцию, необходимую для украинской армии. И это в то время, когда уже пять лет идет необъявленная война с Россией, когда в самой Украине со всех граждан взимается военный сбор в размере 1,5% с доходов, а внешние партнеры из своих бюджетов выделяют громадные ресурсы для поддержки Украины.

На фоне откровенного воровства бюджетных средств, выделенных на оборону, посол США выставил требование: *«Правительство Украины должно немедленно профинансировать полный аудит Укроборонпрома и рассекретить государственный оборонный заказ в максимально возможном объеме… Закрывать глаза на коррупцию в оборонном секторе – значит вырывать из рук отважных воинов Украины еду, медицинскую помощь и оружие. И правительство должно расследовать и дать ход делам о коррупции в Укроборонпроме и в других местах»*.

Вслед за МВФ, Всемирным банком Мари Йованович затронула очень важную тему декриминализации статьи о незаконном обогащении, под которую попали высокопоставленные чиновники, включая нынешних министров, дела которых практически уже дошли до суда. И вот сейчас, благодаря инициативе в том числе депутатов Блока Петра Порошенко и Народного фронта, им удастся избежать наказания. Критике посла подверглась система отбора судей, которая позволила в обновленные суды попасть судьям с сомнительной репутацией. Досталось и Назару Холодницкому: *«Ради целостности антикоррупционных институций должен быть заменен Специальный антикоррупционный прокурор. Тому, кто был пойман за предоставлением консультаций подозреваемым по поводу того, как избежать ответственности по обвинениям в коррупции, нельзя доверить вести эти самые дела»*.

Значительный блок заявления был посвящен избирательной кампании в Украине. США озабочены тем, чтобы выборы в Украине были свободными и честными: *«Важно, чтобы воля украинского народа уважалась независимо от результата»*. По мнению посла, власть должна обеспечить прозрачный подсчет голосов исключительно членами избирательных комиссий, оградить работников избиркомов и наблюдателей от давления извне, не мешать гражданам свободно изъявлять свою волю во время голосования, привлечь к уголовной ответственности тех, кто проплачивает голоса избирателей или фальсифицирует результаты голосования. А *«государственные ресурсы не должны направляться против политических оппонентов»*.




Такой спич посла несколько обескуражил Администрацию президента, ибо последние несколько недель она через определенных спикеров пыталась навязать обществу мнение: мол, *«смиритесь, Запад все проглотит»* (коррупцию, фальсификации, подкуп избирателей, силовое давление на оппонентов). Оказалось, что на самом деле все совсем не так… Посол США в Украине точно расставила все акценты, заострив внимание и на фундаментальных ценностях, которые являются краеугольным камнем западной цивилизации: *«Страна, которая стремится к интеграции с Европейским Союзом и НАТО, должна обеспечить, чтобы ее действия отвечали западным стандартам»*.

Оправившись от первоначального шока, кто-то быстренько начал обвинять посла США в том, что это прямое вмешательство в суверенные дела, кто-то пошел еще дальше и пытался убедить, что она «агент Кремля». Администрация Порошенко сделала ставку на публичное игнорирование, но определенные комментаторы начали утверждать, что *«это частное мнение посла, она как госслужающий не имела права так говорить, это ей не сойдет с рук, теперь ей недолго быть, и за такие высказывания ее непременно отзовут»*… Конечно, посла рано или поздно отзовут. Но через день приехавший в Украину заместитель госсекретаря США Дэвид Гейл фактически снял все инсинуации и открыто поддержал и одобрил высказывания посла: *«Посол Йованович представляет президента США здесь, в Украине, и Америка разделяет ее позицию...»*

Такого рода заявления говорят о том, что один из основных партнеров Украины – США – озабочен ситуацией, складывающейся в стране. За пять лет президентства Петр Порошенко не решил проблему коррупции в стране, более того, его ближайший друг непосредственно замешан в криминальных действиях. Реформы органов, которые должны существенно ограничить возможности коррупционеров, тормозятся чиновниками, подконтрольными президенту. И ко всему этому, не имея безусловной поддержки избирателей, существуют попытки удержаться у власти путем подкупа и фальсификации результатов голосования, что ставит под угрозу внутреннюю стабильность в стране.

И концовка недели подтвердила, что западные партнеры не зря беспокоятся о свободном волеизъявлении украинцев и стабильности государства Украина. Посеянный ранее ветер в виде силового давления на оппонентов Петра Порошенко (Зеленский, Тимошенко, Гриценко) и информации о подготовке некими силами радикальных групп для организации итогового «правильного» подсчета голосов на избирательных участках в день/ночь голосования обернулся для президента Украины если не бурей, то пока штормовым предупреждением – демонстрацией силы антипорошенковскими радикальными группировками в Киеве и на предвыборном митинге Петра Алексеевича в Черкассах. Судя по всему, начинается более жесткий этап избирательной кампании, и мелкие стычки могут перерасти в жестокие побоища. Ситуация действительно близка к критической. Посмотрим, хватит ли ума украинской власти не плевать в колодец...

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 САКАВІКА 2019 г.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Сергей Сидорский сводил семью в Большой театр

*Бывший премьер-министр пригласил жену, дочь и внучку на праздничный концерт ко Дню женщин в Национальный академический Большой театр оперы и балета.*

*«Как же приятно получить приглашение от любимого папы на праздничный концерт в театр! Собрал вокруг себя своих любимых девчонок, только сестренки не хватает! Наш самый лучший, самый любимый, самый-самый!»* – так подписала семейный снимок младшая дочь Сергея Сидорского Оксана. Старшая дочь экс-премьера Елена с семьей живет в Германии.



А на снимке вместе с семьей бывшего премьера – генеральный директор Большого Владимир Гридюшко.

Стоит заметить, что Сергей Сидорский – один из немногих белорусских чиновников, который даже в бытность премьер-министром старался не пропускать премьеры в столичных театрах. Правда, Сидорский не афишировал свои визиты в театры и не устраивал из этого показухи – приходил с женой как обычный зритель.

Сергея Сидорского называли *«самым европейским белорусским премьер-министром»*, а его супруга Людмила не раз входила в топ самых стильных белорусок. Людмила Сидорская поддерживала своим участием многие светские мероприятия и благотворительные проекты, выходила на подиум. Пожалуй, ни один белорусский премьер и члены его семьи не были настолько открыты и доступны для публики. Как правило, большинство высокопоставленных чиновников в нашей стране предпочитают вести закрытый образ жизни. Даже сегодня по пальцам можно пересчитать тех, кто с женами и детьми приходит на концерты и спортивные мероприятия не по указке сверху, не в качестве свиты, сопровождающей первое лицо государства, а просто потому, что это отличный способ провести время и побыть вместе с родными. В этом смысле Сергей Сидорский – был и есть отличный пример для подражания.

**Галина РУТ.**

КУЛУАРЫ



## Андрэа ВІКТАРЫН: «Я, між іншым, не такая і пяшчотная!»

*Кіраўніца прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Мінску Андрэа Віктарын стамілася ад стандартных віншаванняў з 8 Сакавіка.*

*Пра гэта дыпламат распавяла падчас прэзентацыі праграмы бліц-стажыровак для беларусак, якія адбудуцца ў амбасадах замежных краін у сакавіку і красавіку.*

Такім чынам паслы, бізнес-лідары і кіраўнікі прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый спрабуюць укараніць у Беларусі еўрапейскую традыцыю святкавання Міжнароднага дня салідарнасці жанчын. Так, у Германіі запрашэнне на такую бліц-стажыроўку – вельмі сучасны спосаб адсвяткаваць гэты дзень.

Акцыю падтрымалі пасольствы Вялікабрытаніі, Швецыі, Індыі, Аўстрыі, ЗША, офіс Прадстаўніцтва Еўрасаюза, ААН, ЮНІСЕФ, Сусветны Банк, Міжнародная фінансавая карпарацыя, ЕБРР, а таксама некалькі буйных камерцыйных амерыканскіх, шведскіх і брытанскіх кампаній.

*"Мы прапанавалі дзяўчатам 18–24 гадоў з усіх куткоў Беларусі магчымасць правесці адзін поўны працоўны дзень з прафесіяналам у сферы міжнародных адносін і бізнесу"*, – кажуць арганізатары акцыі.

*"Я памятаю свой першы візіт да спадарыні* ***Марыяны Шчоткінай****, якая тады была міністрам працы і сацыяльнай абароны*, – распавяла **Андрэа Віктарын.** *– Я прэзентавала ёй ідэю стажыровак, але, відаць, быў не самы ўдалы момант для таго, каб яна ажыццявілася. Амбасадар Вялікабрытаніі Фіёна Гіб падзяляе мой энтузіязм і лічыць, што гэта вельмі паспяховая мадэль. І таму мы яе разам і рэалізуем. Спадзяюся, такія стажыроўкі хутка стануць у Беларусі добрай традыцыяй…*

*Шчыра кажучы, я ўжо крыху стамілася ад таго, што мужчыны напярэдадні свята гавораць мне: ты такая добрая, прыгожая, пяшчотная… А я, між іншым, не такая і пяшчотная* (смяецца)*!*

*Дарэчы, мужчыны пры гэтым вельмі рэдка кажуць жанчынам, што яны адначасова і разумныя…*

*У такіх умовах нам падаецца вельмі важным даць магчымасць жанчынам зазірнуць за кулісы працы прафесіяналаў сваёй справы".*

Паверанная ў Справах ЗША ў Беларусі **Джэніфер Мур** лічыць, што правадырамі любых перамен заўсёды з'яўляюцца менавіта жанчыны.

*"І я перакanана, што жанчыны будуць ключавым складнікам у сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці краіны і зробяць усё, каб Беларусь была паспяховай"*, – адзначыла амерыканскі дыпламат і, каб усіх натхніць, прывяла цытаты дзвюх вядомых жанчын. *– Жалезная лэдзі Маргарэт Тэтчар казала: "Калі вы хочаце пачуць нейкія словы – спрасіце мужчыну, але калі вы хочаце, каб нешта было зроблена, – звярніцеся да жанчыны". Былая першая лэдзі ЗША Элеанора Рузвельт казала: "Для таго каб быць паспяховым, трэба зрабіць унёсак у поспех іншых". Таму я вельмі рада зрабіць унёсак у поспех тых, хто будзе праходзіць гэтыя бліц-стажыроўкі!"*

Як прагучала з вуснаў дыпламатаў, усяго на стажыроўку ў амбасады і замежныя кампаніі трапяць 20 беларусак.

**Марына КОКТЫШ.**
tut.by

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# БЕЛАРУСЬ У 1863 ГОДЗЕ

## З нагоды чарговай палемікі аб вызваленчым паўстанні і гістарычнай асобе Кастуся Каліноўскага

Цягам апошніх гадоў умешвацца ў спрэчкі вакол імя Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863–1864 гадоў у Літве і Беларусі неяк не выпадала. Па-першае, спрэчкі гэтыя вяліся ў калягістарычным рэчышчы і былі далёкія ад сапраўднай навуковай дыскусіі. А па-другое, пра Каліноўскага і тыя падзеі, у эпіцэнтры якіх ён знаходзіўся, сучаснікамі і гісторыкамі напісана дастаткова шмат. Калі чалавек захоча самастойна разабрацца ў тым, што менавіта адбывалася на беларускіх землях у 60-я гады XIX стагоддзя і якое месца там займаў шляхціц Гародзенскай губерні Каліноўскі, – для гэтага ёсць усе магчымасці.

Хто мае вушы – той пачуе, як гаворыцца ў Бібліі.

Аднак чарговая хваля палемікі, дзіўным чынам ініцыяваная Міністэрствам адукацыі Беларусі, патрабуе адпаведнай рэакцыі.

У дадзенай сітуацыі здзіўляе многае.

Перш-наперш тое, што Мінадукацыі, замест таго каб прызнаць памылку і папрасіць прабачэння за недарэчнасць, якая трапіла ў школьныя падручнікі, у якіх паўстанне 1863–1864 гадоў названа адназначна польскім, раптам стала зацята даказваць, што паўстанне гэтае сапраўды польскае і памылкі тут ніякай няма.

Зразумела, пытаннямі, як называць тую ці іншую гістарычную падзею, павінны займацца гісторыкі. Прэрагатыва чыноўнікаў ад адукацыі – забяспечваць прыстойнае функцыянаванне і развіццё сістэмы нацыянальнай асветы. Чаму ж замест вырашэння надзённых праблем айчыннага школьніцтва наша міністэрства гэтак апантана занепакоілася тым, як правільна называць паўстанне 1863–1864 гадоў?

Выклікае абурэнне безапеляцыйнасць і зняважлівы тон прысвечанага гэтаму пытанню артыкула прэс-службы Мінадукацыі.

А найбольш здзіўляе тое, што пасля абгрунтаванага і ўзважанага адказу гісторыкаў у "Настаўніцкай газеце" з'явіўся артыкул Ігара Марзалюка, які дагэтуль, наколькі вядома, усур'ёз падзеямі 1863 года ў Беларусі не займаўся.

Праанансаваўшы ў назве свайго артыкула погляд "без хітрыкаў" і міфаў, на жаль, аўтар нават не паспрабаваў глыбока разабрацца ў тэме паўстання і падысці да яе аб'ектыўна. У тэксце з той жа безапеляцыйнасцю паўтараюцца і развіваюцца ранейшыя пастулаты Мінадукацыі. Прыводзяцца некаторыя факты і прозвішчы гісторыкаў, якія нібыта пацвярджаюць аўтарскае меркаванне. І ў той жа час факты і шматлікія даследаванні, што гэтаму меркаванню супярэчаць, старанна абыходзяцца і замоўчваюцца.

Не робіць гонару сп.Марзалюку і паблажлівае стаўленне да апанентаў, а таксама поўнае ігнараванне навуковых распрацовак тых выдатных спецыялістаў, для якіх даследаванне беларускай мінуўшчыны напярэдадні і падчас паўстання сталася ў многім справай жыцця: Г.Кісялёва, М.Біча, В.Шалькевіча, Я.Янушкевіча і іншых.

Гісторыя – гэта калі вывучаюцца ўсе даступныя крыніцы і на аснове атрыманай інфармацыі будуецца аб'ектыўная канцэпцыя. А калі робіцца наадварот – бярэцца патрэбная канцэпцыя, і пад яе падганяюцца неабходныя сведчанні і факты, – гэта не гісторыя. Гэта – прапаганда.

Навідавоку чарговая хваля штучнага гістарычнага рэвізіянізму, скіраваная на дыскрэдытацыю ў масавай свядомасці беларусаў адной з самых знакавых постацяў айчыннай гісторыі.

Пытанне, навошта гэта патрэбна Міністэрству адукацыі Беларусі, рытарычнае.

Галоўнай выбуховай сілай у паўстанні 1863–1864 гадоў сапраўды быў польскі нацыянальна-вызваленчы рух. Распачалося паўстанне ў Польшчы. Цэнтральнае кіраўніцтва было ў Варшаве. Асноўныя пастановы і адозвы паўстанцкага ўрада выдаваліся на польскай мове. Адной з мэт было аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

Усё гэта праўда.

Але ў дачыненні да тэрыторыі сучасных Беларусі і Літвы гэтае паўстанне не перастала быць выключна "польскім" роўна праз 10 дзён пасля свайго пачатку. Калі пасля працяглага вагання яно было падтрымана Літоўскім правінцыяльным камітэтам у Вільні. Калі на нашых землях пачалося фарміраванне мясцовых паўстанцкіх атрадаў.

Ужо адна гэтая дзесяцідзённая паўза сведчыць, наколькі самастойным быў віленскі камітэт, нягледзячы на наміналны статус правінцыяльнага. У Вільні былі абураны тым, што Варшава распачала паўстанне без папярэдняга ўзгаднення і без уліку інтарэсаў Літвы-Беларусі. І пытанне, ці далучацца да супрацiву ў Польшчы, было зусім не фармальным.

Разам з тым ніхто з сур'ёзных айчынных гісторыкаў ніколі і нідзе не называў паўстанне 1863–1864 гадоў "беларускім". Такое магло быць хіба што ў публіцыстыцы або ў калягістарычнай палеміцы на інтэрнэт-пляцоўках. І незразумела, каму прыхільнікі перагляду гісторыі, у тым ліку І.Марзалюк, з такім імпэтам імкнуцца даказаць, што паўстанне гэтае – не беларускае. Відаць, самім сабе.

Яно не магло быць беларускім апрыёры.

Таму што на той час Беларусь яшчэ не стала суб'ектам гісторыі. І нават сама назва гэтая заставалася выключна ва ўжытку інтэлектуалаў.

Беларускага паўстання 1863–1864 гадоў не было.

Але былі беларускія паўстанцы 1863–1864 гадоў.

І менавіта пра гэта цалкам справядліва пішуць многія даследчыкі.

Колькасць інсургентаў, што пераходзілі мяжу з Царства Польскага, была невялікай. Паўстанцкія сілы на тэрыторыі Літвы і Беларусі амаль поўнасцю складаліся з мясцовых ураджэнцаў. Сярод іх былі не толькі каталікі, але і праваслаўныя. І лічыць усіх іх палякамі па меншай меры некарэктна. Але нават не гэта самае істотнае.

Самае істотнае тое, што, у адрозненне ад папярэдніх паўстанняў за аднаўленне Рэчы Паспалітай, у 1863 годзе ў шэрагах "мяцежнікаў" з абшараў былога Вялікага Княства Літоўскага былі людзі, якія сапраўды змагаліся за самастойную Беларусь. Іх было яшчэ не так шмат, але яны былі. І лідарам іх быў Канстанцін Каліноўскі.

Разбуральнікі гістарычных міфаў сцвярджаюць, што Каліноўскі нідзе нават не згадваў пра Беларусь, а тым больш не патрабаваў для яе незалежнасці. Пры гэтым ігнаруючы неаднаразовыя сведчанні "літоўскага сепаратызму" Каліноўскага і груба парушаючы адзін з асноўных прынцыпаў гісторыка – прынцып гістарызму.

Сур'ёзны гісторык не можа ацэньваць падзеі мінуўшчыны з пазіцыі сённяшняга часу. Усе факты і дзеянні павінны разглядацца з улікам рэалій той эпохі, калі яны адбываліся. Толькі ў гэтым выпадку можна атрымаць максімальна аб'ектыўную карціну.

Трэба разумець, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя беларускія землі былі зусім іншымі. І эканамічна, і культурна яны былі значна больш звязаны з Польшчай, чым з Расіяй. Адукаваныя слаі насельніцтва вызначаліся выразна прапольскімі настроямі. У гарадскім побыце дамінавала польская мова. У асяроддзі шляхты і інтэлігенцыі шырока праяўлялася настальгія па колішняй Рэчы Паспалітай, жыццё ў якой нярэдка ідэалізавалася. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. "Дзяржава абодвух народаў" праіснавала амаль 230 гадоў і шчыра ўспрымалася ўраджэнцамі Беларусі як страчаная Радзіма. Дзеля яе аднаўлення многія гатовы былі адмовіцца ад самабытнасці свайго краю, якая падавалася ім неістотнай.

І.Марзалюк у сваім артыкуле падае як нейкую сенсацыю цытату з паслання віцебскай шляхты ў Варшаву, у якім гаворыцца аб уліванні народаў Беларусі і Літвы ў агульны польскі народ. Але трэба зважаць: кім, калі і пры якіх умовах напісаны дакумент. У той жа час ад імя той жа шляхты ішлі вернападданніцкія лісты ў Пецярбург. Таму для разумення ўсёй складанасці гістарычнай сітуацыі адной выхапленай з кантэксту цытаты недастаткова.

Тым больш што ніякай сенсацыі ў гэтым пасланні няма.

Такая ж самая шляхта, але ўжо на Міншчыне яшчэ за год да паўстання запатрабавала далучэння губерні да Царства Польскага.

Аднак ні мінскія дзеячы, ні аўтары віцебскага паслання не прыехалі сюды з Польшчы. Гэта прадстаўнікі моцна апалячанай, але ўсё ж беларускай шляхты. Канчаткова польскай яна так і не стала. Пройдзе час, і з яе выйдуць знакавыя постаці нашага нацыянальнага адраджэння: Карусь Каганец, Янка Купала, Алаіза Пашкевіч, Іван і Антон Луцкевічы…

Патрабаванне мінскае і пасланне віцебскае сведчаць толькі пра адно – пра сумныя вынікі паланізацыі ў Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя. Аднак у гэтым – светапогляд тагачасных жыхароў нашай зямлі, які мы мусім улічваць.

Разам з тым, выступаючы за аднаўленне Рэчы Паспалітай, далёка не ўсе былі згодны злучацца з палякамі ў адзін народ. Прагрэсіўная частка шляхты і інтэлігенцыі ўсведамляла сваю нацыянальную адметнасць і гатова была працаваць на развіццё ўласна беларускай культуры, самасвядомасці.

Шмат напісана пра два ўзроўні патрыятызму ў жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага. Агульнадзяржаўны, у межах якога нашы продкі лічылі сябе грамадзянамі аб'яднанай Польшчы – Рэчы Паспалітай – і маглі называць сябе "палякамі". І "краёвы", калі тыя ж людзі не без гонару падкрэслівалі, што яны – ліцвіны. Пазней гэты "краёвы" патрыятызм выкрышталізуецца ў патрабаванне самакіравання, аўтаноміі для Беларусі і Літвы ў межах свабоднай Польшчы, якое ўпершыню будзе заяўлена К.Каліноўскім у 1863 годзе: "…ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства…"

Больш за тое, ужо падчас паўстання палітыка варшаўскага цэнтра прывяла да яшчэ большай радыкалізацыі патрабаванняў Каліноўскага. І мы можам з поўным правам лічыць, што ён выступаў (як мінімум) за стварэнне федэрацыі Польшчы і Літвы-Беларусі. Доказаў гэтаму дастаткова: пачынаючы ад абвінавачанняў у сепаратызме ў мемуарнай літаратуры і заканчваючы сведчаннямі афіцыёзнага расійскага гісторыка В.Ратча.

Гэтую акалічнасць аматары разбураць гістарычныя міфы старанна замоўчваюць.

Многія могуць запярэчыць: маўляў, аўтаномія – гэта зусім не незалежнасць. Сапраўды так. Але ці рэальным наогул было абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, ва ўмовах апалячанага грамадства? На каго мусіла абаперціся гэтая незалежнасць? На бяспраўнае непісьменнае сялянства?

У 1860-х гадах, калі беларускі нацыянальны рух знаходзіўся яшчэ ў стадыі нараджэння, патрабаванне аўтаноміі было велізарным крокам наперад.

Пра незалежнасць не вялі гаворкі нават айцы-заснавальнікі нашай першай палітычнай партыі – Беларускай Сацыялістычнай Грамады – праз 40 год пасля Каліноўскага. Хаця за імі ўжо былі тысячы абуджаных да свядомага жыцця суайчыннікаў, у праграме БСГ утрымлівалася сціплае з пункту гледжання сённяшняга абывацеля патрабаванне аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі.

Выходзіць, розніца паміж К.Каліноўскім і братамі Луцкевічамі толькі ў тым, што першы выступаў за аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай Польшчы, а другія – за аўтаномію ў складзе дэмакратычнай Расіі.

І пры гэтым ні ў кога не павернецца язык абвінаваціць Івана ды Антона Луцкевічаў у недастатковай беларускасці.

Тое, што Кастусь Каліноўскі нідзе ў сваіх тэкстах не згадваў пра Беларусь, – няпраўда. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова прачытаць першую частку "Пісьмаў з-пад шыбеніцы", адрасаваную адукаванаму чытачу. Там ад імя мужыкоў-беларусаў пішацца і пра беларускі погляд на паўстанне, і пра беларускую мову навучання ў школах.

Датычна ж "Мужыцкай праўды" важна памятаць: газета гэтая прызначалася для простага сялянства. Нагадаем, што назва "Беларусь" у сярэдзіне XIX стагоддзя знаходзілася выключна ва ўжытку інтэлектуалаў. І называлі тады Беларуссю пераважна ўсходнюю частку нашага краю. Заходняя частка традыцыйна называлася Літвой. Спатрэбяцца дзесяцігоддзі, каб наша сучасная назва канчаткова замацавалася за ўсёй тэрыторыяй краіны.

У "Мужыцкай праўдзе" Каліноўскі свядома спрашчае тэкст, каб ход думак быў цалкам зразумелы чытачам. Выкарыстоўвае добра знаёмыя тагачаснаму сялянству паняцці і назвы: "паляк", "немец", "маскаль", "француз". Лішне казаць, што зварот "беларусы" і заклікі змагацца за беларускую справу сяляне ў часы Каліноўскага проста не маглі зразумець, а тым больш на іх адгукнуцца. Яшчэ праз трэць стагоддзя Францішак Багушэвіч – дарэчы, таксама беларускі паўстанец 1863 года – у пранікнёнай прадмове да свайго першага паэтычнага зборніка будзе тлумачыць беларусам, хто мы ёсць на зямлі і як называецца наша мова.

З артыкула ў артыкул аматараў разбураць гістарычныя міфы вандруе сцвярджэнне, што Каліноўскі не мае ніякага дачынення да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, бо ён – паляк, а мовай беларускай карыстаўся выключна ў тактычных мэтах як інструментам прапаганды. Адметна, што гэтае меркаванне з імпэтам падтрымлівае ў сваім артыкуле і І.Марзалюк.

Надуманасць і беспадстаўнасць такога сцвярджэння перавышае ўсякую меру. Ніводнага сур'ёзнага аргумента ў падтрымку сваіх слоў аўтары прывесці не могуць. Бо іх, відавочна, няма.

Па-першае, нават каб выкарыстаць мову ў прапагандысцкіх мэтах, трэба, прынамсі, дасканала ёю валодаць. Ведаць беларускую мову ў часы, калі яна не вывучалася ні ў адной школе, мог толькі беларус.

І, па-другое, сапраўдную карціну таго, кім быў Кастусь Каліноўскі і чым была для яго беларуская мова, адкрываюць "Пісьмы з-пад шыбеніцы". Размова тут нават не пра апошні запавет беларускаму народу. Бо ў ім заўзятыя прыхільнікі тэорыі "польскасці" Каліноўскага таксама могуць угледзець нейкую прапаганду. Як бы тое ні было недарэчным.

Гаворка пра шчымлівыя вершаваныя радкі, прысвечаныя Марыі Ямант.

Апошні развітальны зварот да каханай нявесты.

Напісаны ў турэмнай камеры за колькі дзён да смерці.

Па-беларуску.

Нехта можа паверыць, што аўтар верша "Марыська чарнабрэва, галубка мая" – паляк, які выкарыстоўваў беларускую мову толькі для прапаганды?

Гэтыя дванаццаць інтымных радкоў, відавочна, не прызначаных для друку, адназначна даказваюць, што са сваёй нарачонай Каліноўскі размаўляў на беларускай мове.

З пэўнай доляй верагоднасці можна меркаваць, што па-беларуску вяліся і некаторыя размовы Каліноўскага з найбліжэйшымі паплечнікамі па віленскім цэнтры. У прыватнасці, з яго сакратаром Юзафам Ямантам.

Ускосна пра гэта сведчыць у паказаннях следчай камісіі Вітаўт Парфіяновіч – той самы, які выдаў імперскім уладам К.Каліноўскага.

"Между ними (Ю.Ямантам і К.Каліноўскім. – **З.К.**) завязался разговор, насколько я мог понять *(Sic!)*, о составлении контр-адреса".

Чаму В.Парфіяновіч, знаходзячыся з суразмоўцамі ў адным памяшканні, не да канца зразумеў тэму гутаркі? Можа, таму, што яна вялася па-беларуску?

Многія скептычна ўсміхнуцца: маўляў, гэта прыцягнута за вушы.

Магчыма.

Але калі згадаць, якім паролем карысталіся ў віленскім паўстанцкім цэнтры, то гэткае меркаванне не падаецца такім ужо неверагодным.

Пароль гэты прапагандысты ад гісторыі лічаць за лепшае не згадваць. Раней яго абвяшчалі фальшыўкай, мастацкай прыдумкай Ул.Караткевіча. А пасля таго як у 2013 годзе В.Голубевым была апублікавана фотакопія архіўнага дакумента, у якім прыводзіцца дакладная формула пароля, – яго проста замоўчваюць. Між тым яшчэ ў працах сумленнага і аўтарытэтнага Г.Кісялёва адзначалася, адкуль віленскі пароль вядомы гісторыкам. Усё з тых жа паказанняў В.Парфіяновіча. Слова ў слова.

*Каго любіш?*
*Люблю Беларусь.*
*Так узаемна.*

Зважаючы на спрэчкі даваенных беларускіх гісторыкаў і інтэлектуалаў пра паўстанне і ролю ў ім К.Каліноўскага, трэба разумець, што ў 1920–1930-х гадах многія факты і дакументы з 1863 года былі яшчэ невядомыя даследчыкам. Нават "Пісьмы з-пад шыбеніцы" доўгі час цытаваліся паводле не зусім дакладнай публікацыі В.Ластоўскага. Не кажучы ўжо пра паказанні В.Парфіяновіча і іншыя архіўныя матэрыялы, пік навуковай распрацоўкі якіх прыйшоўся на юбілейныя 1960-я.

У завочнай дыскусіі А.Луцкевіча і А.Станкевіча, М.Доўнар-Запольскага і У.Ігнатоўскага няма ідэалагічнай зададзенасці. Кожны з іх дапускае памылкі і недакладнасці, уласцівыя тагачаснаму ўзроўню развіцця гістарыяграфіі. Але яны паважаюць апанентаў і не абвінавачваюць іх у свядомых "хітрыках" і міфатворчасці.

Тое, што "беларускасць" Каліноўскага пачалася толькі з артыкула Вацлава Ластоўскага "Памяці Справядлівага", як сёння сцвярджаецца ў асобных тэкстах "без хітрыкаў" – відавочная недакладнасць. Ужо пры першапублікацыі "Пісьмаў з-пад шыбеніцы" А.Гілерам яны атрымалі красамоўны загаловак "Да люду беларускага". Было гэта ў 1867 годзе.

У 1892 годзе ў выдадзеным у Львове гістарычным нарысе "25 гадоў Расіі ў Польшчы (1863–1888)" К.Каліноўскі названы "шчырым апосталам люду беларускага". Верагодны аўтар гэтага выказвання – сакратар цэнтральнага паўстанцкага ўрада ў Варшаве Ю.Яноўскі, у мемуарах якога яно з дакладнасцю будзе паўторана.

А калі сур'ёзна, беларускасць Кастуся Каліноўскага пачалася з таго моманту, як ён авалодаў беларускай мовай. Калі – насуперак многім фактарам – запатрабаваў для нашага краю самастойнасці.

Хаця паўстанне 1863–1864 гадоў і адбывалася ў агульным рэчышчы польскага вызваленчага руху, вызначэнне яго як "польскага" ў дачыненні да тэрыторыі Беларусі нельга лічыць карэктным.

На абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага паўстанне мела асобнае кіраўніцтва і свае нацыянальныя асаблівасці.

Сярод паўстанцаў амаль выключна – ураджэнцы беларуска-літоўскіх земляў. Нягледзячы на моцную паланізаванасць, этнічнымі палякамі яны не былі.

Віленскае кіраўніцтва паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім вылучыла патрабаванне самакіравання, аўтаноміі для Літвы-Беларусі. Тым самым было пастаўлена пытанне аб аднаўленні беларускай дзяржаўнасці і, па сутнасці, зроблены першы крок да сучаснай незалежнасці.

У першапачатковым плане прадугледжвалася далучэнне да паўстання расійскіх губерняў пад кіраваннем рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў з мэтай ліквідацыі самадзяржаўя.

Такім чынам, міжнародны характар руху і выключна важныя праявы ў ім беларускай ідэнтычнасці, што выявілася найперш у дзейнасці К.Каліноўскага і яго паплечнікаў, не дазваляюць беларускаму гісторыку лічыць "польскім паўстаннем" падзеі 1863–1864 гадоў, якія адбываліся па-за межамі Польшчы.

Разам з тым не зусім правільнай трэба прызнаць і назву "паўстанне Каліноўскага". Паколькі Кастусь Каліноўскі цягам трох з паловай месяцаў (з сакавіка да сярэдзіны чэрвеня 1863 года) быў адхілены ад цэнтральнага кіравання, гэтая назва можа быць дапушчальная толькі ў папулярнай літаратуры і публіцыстыцы.

У навуковых тэкстах варта па-ранейшаму прытрымлівацца класічнага азначэння "паўстанне 1863–1864 гадоў" як найбольш аптымальнага варыянта, які ўжо на працягу дзесяцігоддзяў ужываецца ў шматлікіх працах айчынных даследчыкаў.



«Кастусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 года на Беларусі». Мастак П. Сергіевіч. Мінск, 1989 г.

**Зміцер КУЗМЕНКА, гісторык, аўтар сайта "Сьвіслацкія аркушы – Кастусь Каліноўскі".**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 САКАВІКА 2019 г.

ЗОДЧЕСТВО

# Почему архитектор Лангбард отрекся от Большого театра



Согласитесь, в Минске совсем не много зданий, тем более довоенного периода, которые имеют право отмечать свои дни рождения как произведения архитектурного искусства: Дом правительства, Дом офицеров, главный корпус Академии наук, Купаловский театр и, конечно, здание Большого театра. На днях ему исполнилось 80 лет. Его автор – прославленный Иосиф Лангбард, чье творчество получило мировое признание на Всемирной выставке в Париже, где зодчий в 1937 году стал обладателем Гран-при.

Авторитетному архитектору не сразу предложили взять проект Государственного театра оперы и балета Белорусской ССР – его руки были даже не вторые, а третьи, после того, как зарубили варианты архитекторов Георгия Лаврова, а потом Григория Бархина, по которым уже даже начали строить здание. Представляю, как это было болезненно и для одних, и для другого: думаю, перекраивать «чужие одежды» Иосифу Григорьевичу было не в большую радость. Но с коммунистической партией не поспоришь. И он, естественно, взялся за работу и создал новый проект театра. По мнению специалистов – гениальный.

Но не воплотил его полностью в жизнь. То, что мы видим сейчас в Минске на Троицкой горе, есть лишь урезанная часть его прекрасного авторского замысла. Посмотрите на архивное фото проекта Большого театра Иосифа Лангбарда – это настоящий шедевр. Здание выглядит могущественным дворцом, при этом очень белорусским, национальным сооружением. Это считывалось даже дилетантом. И допустить этого было нельзя – белорусский оперный не должен был быть величественнее российского Большого. А как же: партийный принцип «демократического централизма» действовал во всех сферах социалистической жизни. А потому в 1939 году построили лишь то, что построили, то есть гораздо скромнее, упрощеннее и в два раза меньше по размеру.

Как пережил творческий «аборт» автор? Вероятно, очень болезненно, потому что по столице долго ходили слухи, что Лангбард якобы втайне мечтал, чтобы здание во время войны было вовсе разрушено, и тогда он попробовал бы добиться полного воплощения своей первоначальной идеи. Думаю, как все слухи, этот тоже немного утрирован, но самолюбие архитектора было точно сильно поранено. С трибуны съезда белорусских архитекторов Лангбард сказал (и его слова задокументированы): *«Никто из вас не знает, что этот театр делался без меня. Все сделано неграмотно, некрасиво, отвратительно. Этот театр я не делал»*.

По сути, произошло публичное отречение автора от Большого театра.

Кстати, здание оперного, как всегда между собой называют его коренные минчане, могло быть открыто на два года раньше, в 1937 году оно было готово. Но этого не случилось. Возможно, из-за громкого уголовного дела, раскрытого в это время: есть документы, что со строительством театра была связана крупная афера – хищение 1 миллиона 800 тысяч рублей.

Война, как известно, пощадила театр, разрушения были незначительные. В 1948 году он был полностью восстановлен. Через двадцать лет его снова реконструировали. В 1978-м опять отремонтировали, особенно интерьеры фойе, в которых появились золоченые торшеры, а на стенах – талантливые гобелены народного художника Александра Кищенко. Интересно, где их сейчас ест моль?.. Но самая кардинальная реконструкция здания прошла в новое время, с 2006-га по 2009 год, когда на фасаде установили огромные скульптуры. О которых художники спорят по сей день, пеняя авторам на несуразность их размеров по отношению к общему масштабу здания.

Естественно, по проекту Лангбарда их быть не должно. Лишь одна скульптура могла украшать здание такого уровня – вождя мирового пролетариата Владимира Ленина. И если бы ее установили, то уж точно не снесли бы до сегодняшнего дня. А так все-таки на крыше парят античные боги. Мы же, в конце концов, центр Европы!

**Елена МОЛОЧКО.**

КІНАСЕАНС

# Танчаць усе!

*Да 24 красавіка ў кінатэатры “Ракета” паказваюць фільмы пра сучасны танец. Перад кожнай стужкай – міні-лекцыя даследчыцы сучаснага танца, вядомага танцавальнага крытыка Святланы Уланоўскай.*

“Падобная кінапраграма будзе прадэманстравана ў Беларусі ўпершыню, – *распавялі “Народнай Волі” ў амбасадзе Францыі*. – Гледачы змогуць пазнаёміцца з унікальнымі фільмамі, сярод якіх як біяграфічныя стужкі, прысвечаныя творчасці вядомых харэографаў (Піны Баўш, Сашы Вальц, Мацільды Манье і іншых.), так і запісы танцавальных спектакляў. Стужкі ахопліваюць шырокую панараму гісторыі сучаснага танца”.

Паказы пройдуць пры падтрымцы Інстытута імя Гётэ ў Мінску і Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.

**Вера ВІР.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Алена АТРАШКЕВІЧ: «На Стаса Міхайлава публіка ідзе больш ахвотна, чым на канцэрты кампазітараў...»

*Які заробак у старшыні творчага саюза?*
*Чаму бізнесмены не гатовы падтрымаць тых, хто піша музыку?*
*Куды падзелася маёмасць Саюза кампазітараў?*
*Пра гэта “Народнай Волі” распавяла **Алена Атрашкевіч**, якую днямі абралі на пасаду старшыні Саюза кампазітараў.*

**– Алена Віктараўна, ці ёсць у вас канкрэтны план развіцця Саюза кампазітараў? Ёсць меркаванне, што саюзу перш за ўсё трэба вырашаць фінансавыя пытанні. Як думаеце зводзіць канцы з канцамі? Пытаюся, таму што ў сваім праграмным выступленні вы больш казалі пра працу з дзецьмі, а не пра гэта...**

– У сваім звароце я не рабіла акцэнт на дзецях, гэта быў толькі адзін з пунктаў, якія я агучыла на з’ездзе.

Думаю, у першую чаргу павінны актывізавацца самі кампазітары. Наш саюз існуе толькі на членскія ўзносы, а нам трэба навучыцца зарабляць грошы, каб можна было дазволіць сабе нейкія паездкі, праводзіць цікавыя мерапрыемствы, форумы. Мая задача – аб’яднаць людзей. Зрабіць так, каб яны працавалі не толькі на свой імідж, але і з карысцю для Саюза.

Трэба ўзаемадзейнічаць з тымі, хто перш за ўсё зацікаўлены ў музыцы. Як паказвае практыка, у большасці выпадкаў гэта якраз дзіцячыя і юнацкія калектывы, якія ўдзельнічаюць у конкурсах, розных канцэртах. І пошук рэпертуару для іх вельмі важны. Я займаюся педагогікай, пішу для моладзі, актыўна супрацоўнічаю з рознымі калектывамі і разумею, што гэты кірунак Саюзу кампазітараў трэба развіваць.

Мы намецілі для сябе ключавыя напрамкі работы, ну а што з гэтага атрымаецца – паглядзім.

**– Бізнесменаў, якія падтрымліваюць розныя творчыя праекты, прыцягваць да дзейнасці саюза плануеце? Напрыклад, старшыня савета дырэктараў «Амкадора» Аляксандр Шакуцін вядомы сваёй любоўю да музыкі, спансіраваў некаторыя праекты, звязаныя з шоу-бізнесам...**

– Шукаць у нашай краіне спонсараў – справа не такая простая...

Прайшло толькі пару дзён пасля з’езда. Не магу сказаць, што ў мяне ўжо цалкам гатова праграма дзейнасці, але планы на бліжэйшы год ёсць. Трэба пакуль зразумець, у які бок мы ідзём і наколькі бізнес гатовы нас падтрымліваць...

Дарэчы, міністр культуры Юрый Паўлавіч Бондар сказаў, што ўсяляк гатовы нам дапамагаць, нягледзячы на тое, што мы не знаходзімся на балансе міністэрства.

Трэба, каб людзі да нас павярнуліся. Нельга сказаць, што зусім няма цікавасці да таго, што мы робім, але... На Стаса Міхайлава публіка сёння ідзе больш ахвотна, чым на канцэрты кампазітараў...

Але, канешне, ёсць спосабы прыцягнуць фінансы, і над гэтым трэба працаваць.

**– Якая сума патрэбна, каб Саюз кампазітараў мог цалкам аплачваць уласныя выдаткі?**

– Сёння пры дапамозе членскіх узносаў мы не можам нават пакрыць камунальныя выдаткі. У саюзе прыкладна 120 чалавек, а ўнёскі – 24 з паловай рублі. Гэтых грошай відавочна недастаткова...

Пры гэтым і сакратар, і праўленне Саюза кампазітараў працуюць за інтарэс, а не за зарплату.

**– А вы?**

– І я таксама. Для мяне гэта проста чарговая грамадская нагрузка.

**– Можа, кабала?**

– Я так не сказала б. Калі кампазітары даверылі мне гэтую працу, значыць, трэба запрагацца і як мінімум не расчараваць калег.

Я разумею, што лёгка не будзе...

**– Алена Віктараўна, а што з уласнасцю? Раней Саюз кампазітараў размяшчаўся на плошчы Свабоды, там стаяў раяль...**

– Шкада, канешне, што мы страцілі той цудоўны будынак, але мы пераехалі ў меншае памяшканне на вуліцу Рэвалюцыйную, там ёсць свая ўтульнасць…

Адзін раяль мы забралі ў новы офіс, другі знаходзіцца ў Доме афіцэраў. А трэці перавезены на канцэртную кропку «Корпус 8», якая знаходзіцца ў адным з карпусоў завода «Гарызонт». Саюз кампазітараў зможа выкарыстоўваць гэтую залу для сваёй канцэртнай дзейнасці.

Вядома, сёння адна з самых прэстыжных для нас сцэн – Белдзяржфілармонія, але за канцэрты там трэба плаціць. Саюзу кампазітараў таксама трэба навучыцца працаваць не толькі за інтарэс.

**– Але ж у вас ёсць кампазітары – сапраўдныя зоркі! Мне здаецца, іх можна неяк больш актыўна эксплуатаваць (у добрым сэнсе гэтага слова). Можна ладзіць нестандартныя творчыя сустрэчы з легендамі, рэкламаваць іх...**

– Не кожны яшчэ, можа, і захоча. Кампазітары – людзі творчыя. У аднаго ёсць сілы на тое, каб выдаць масу зборнікаў, а ў другога няма ні маральных, ні фізічных сіл увогуле ні на што…

Дарэчы, у нас і цяпер у офісе праходзяць падобныя сустрэчы. Але зала невялікая, месціць усяго каля 30 чалавек.

**– А памяшканне на Рэвалюцыйнай вы арандуеце?**

– Так. Але я яшчэ буду ўважліва разбірацца з усімі гаспадарчымі пытаннямі.

**– Цікава, а як адгукнуліся кампазітары на тое, што ім цяпер штогод прыйдзецца рабіць творчыя справаздачы аб сваёй дзейнасці? Не скардзіліся на бюракратызм?**

– Не, гэта ж будзе не фінансава-бухгалтарская справаздача. Проста, калі трэба выдаць нейкі даведнік, іншы раз прыходзіцца ўгаворваць некаторых кампазітараў падаць хоць якую інфармацыю аб сваёй дзейнасці. А так усе ведаюць, што гэта – патрабаванне статута.

**– Які сярэдні ўзрост членаў Саюза кампазітараў?**

– Бліжэй да пяцідзесяці... У прынцыпе, гэта нармальна. Кампазітар з гадамі толькі ўдасканальвае сваё майстэрства, пачынае лепш сябе чуць. Так што і ў 50 гадоў кампазітар можа быць у статусе маладога.

**– На пасаду старшыні саюза балатаваліся двое – вы і Алег Хадоска. Разрыў быў зусім невялікі – каля 10 галасоў. Як вы плануеце выбудоўваць адносіны з Хадоскам?**

– Мы з Алегам Ігаравічам сустрэліся праз пару дзён пасля з’езда і абгаварылі некаторыя моманты. Будзем працаваць! І я шчыра скажу: калі б перавага галасоў была ў яго бок, я ўсё роўна закасаўшы рукавы кінулася б яму дапамагаць.

**– Не думалі прапанаваць яму пасаду намесніка старшыні?**

– Гэтая пасаду ўжо занята, яе шмат гадоў займае Віктар Кісцень.

**– Але ж гэта, здаецца, не пажыццёва...**

– Магчыма, на наступных выбарах будуць разглядаць гэтае пытанне...

Я хачу нагадаць, што Ігар Міхайлавіч Лучанок на пасадзе старшыні быў 38 гадоў. І альтэрнатыўныя выбары ў нашым Саюзе здарыліся ўпершыню за ўсе гэтыя гады.

Для мяне гэта была даволі стрэсавая сітуацыя: тайнае галасаванне, абмеркаванне…

Дарэчы, старшыня Саюза кампазітараў не з’яўляецца адзіным гаспадаром. У нас калегіяльнае кіраванне.

**– Лучанок правіў Саюзам амаль 40 гадоў. Вы таксама прыйшлі ўсур’ёз і надоўга?**

– Не ведаю, ці надоўга, але ўсур’ёз.

Разумею, што будзе цяжка. У мяне вялікая нагрузка, і педагагічная ў тым ліку. Але я ўсё жыццё вяла грамадскую работу. І ведаю, што калі працаваць з душой, то ўсё абавязкова атрымаецца.

**Марына КОКТЫШ.**

ПОСТАЦЬ

# Эрнест ЯЛУГІН: «Я імкнуўся вярнуць вобраз Жылуновіча з небыцця»



Зміцер Хведаравіч Жылуновіч. Ён жа – Капылянін, Сымон Друк,. Авадзень, Цішка Гартны. Паэт і перакладчык. Вядомы грамадскі дзеяч.

Мастацкі вобраз аўтара *«Маніхвэста Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі»*, абвешчанага 1 студзеня 1919 года, стварыў у сваёй дакументальнай аповесці **«Без эпітафіі»** (1989) **Эрнест Ялугін.**

**– Эрнест Васільевіч, што падштурхнула вас даследаваць жыццё и дзейнасць першага кіраўніка ўрада БССР, акадэміка Зміцера Жылуновіча? Якія абставіны і асобы паспрыялі стварэнню кнігі пра яго?**

– Напрыканцы 1980-х гадоў я працаваў адказным сакратаром часопіса «Нёман». Полацкіх чытачоў зацікавілі мае эсэ пра Мікалая Улашчыка і Адама Мальдзіса ў кнізе «Толькі камні», і ў рэдакцыі мне даручылі напісаць пра Жылуновіча да 100-годдзя з дня яго нараджэння. Мне паспрыяў Аляксей Кароль, які тады працаваў у Інстытуце гісторыі партыі. Праз яго я атрымаў доступ да дакументаў пра допыты «ворагаў народа». Падзяліўся сваімі знаходкамі і Віталь Скалабан.

Збіраць матэрыял было даволі складана, бо яшчэ дзейнічала КПСС. Але перабудова задавала ўжо свой тэмп. Шмат чаго я здабыў у архівах, сустракаўся з удзельнікамі падзей.

Першы варыянт кнігі на рускай мове быў надрукаваны ў часопісе «Нёман» пад назвай **«После небытия»**. Яе прызналі наватарскай. Мне важна было паказаць, што зрабіў Зміцер Жылуновіч як дзяржаўны дзеяч. Кніга выходзіла ў СССР вялікім накладам. Калі ўтварылася незалежная Рэспубліка Беларусь, узнятая тэма стала яшчэ больш актуальнай.

Вялікую дапамогу аказала Галіна Жылуновіч, якая падрабязна распавяла пра бацьку і пазнаёміла з пісьмамі і сямейнымі рэліквіямі. Дапамаглі В.У.Скалабан, аўтар дысертацыі пра дзейнасць Беларускага Нацыянальнага Камітэта, і У.Д.Якутаў, аўтар прац пра Аляксандра Чарвякова. Багаты гісторыка-літаратурны і чалавеказнаўчы матэрыял сабраны ў кнізе «Успаміны пра Цішку Гартнага», укладальнікам якой была дачка пісьменніка кандыдат філалагічных навук Г.З.Жылуновіч і вядомы зямляк Гартнага доктар гістарычных навук прафесар С.Х.Александровіч.




**– Вы знайшлі месца, дзе пахаваны Жылуновіч… Як гэта адбылося?**

– Я тройчы наведваў Магілёўскую псіхлячэбніцу, дзе ўтрымлівалі Жылуновіча. Знайшоў трох сведак – урача і дзвюх санітарак шпіталя, якія распавялі мне пра падзеі 1937 года. Адна з санітарак па прозвішчы Звяркова была маладой дзяўчынай у той час. Яе сям’ю раскулачылі, бацька звар’яцеў ад роспачы, а маці з дзецьмі выкінулі на вуліцу, і ніхто не даваў ім прытулку. Старэйшая дзяўчынка прабілася да свайго бацькі і стала працаваць у шпіталі санітаркай. Урэшце, бацька Звярковай памёр, і яго пахавалі ў той яме, дзе і Змітра Жылуновіча. Яна і паказала мне гэта месца, бо выдатна яго ведала. Калі я быў удзельнікам здымачнай групы дакументальнага фільма паводле маёй кніжкі «Без эпітафіі», то сведак знялі на кінакамеру. (Каля 25 гадоў гэты фільм паказваюць па тэлебачанні.) Яны паведамілі, што былі там і бачылі мёртвага Жылуновіча. З іх у той час узялі падпіску пра неразгалошванне. Афіцыйнай версіяй прычыны смерці была гангрэна лёгкіх, але ёсць меркаванне, што гэта было самагубства.

Жылуновічу спецыяльна дазволілі прыходзіць у кантору і чытаць газеты. Калі ён даведаўся, што ў Маскве ідзе суд над нацдэмамі, ён зразумеў, што і яго можа чакаць такі лёс. Каб пазбегнуць жорсткіх катаванняў, ён пайшоў на мужны ўчынак, бо не хацеў патрапіць сведкам на працэс і не хацеў, каб знішчылі яго сям’ю. Жонку Надзею Сцяпанаўну, сына і дачку як сям’ю ворага народа проста выслалі з Беларусі і не дазволілі жыць у вялікіх гарадах. У асяроддзі вязняў ведалі, што Жылуновіч паканчыў з сабой, гэта быў ягоны апошні мужны ўчынак, бо ён ратаваў і сваю рэпутацыю, і сваю сям’ю.

**– У кнізе вы паказалі Жылуновіча ў розныя перыяды жыцця: маладым гарбаром з Капыля, потым – карэспандэнтам «Нашай Нівы», рэдактарам «Дзянніцы», сакратаром Беларускага Нацыянальнага Камітэта, кіраўніком першага ўрада БССР і рупліўцам Дзяржвыдавецтва БССР.**

– У мяне была задача не зрабіць гістарычную бухгалтэрыю, а стварыць вобраз. Я шукаю сацыяльныя і псіхалагічныя прычыны кожнай з’явы ў гісторыі. Я натхніў Генрыха Далідовіча, і ён у сваіх публікацыях развіў гэту тэму, быў маім пераемнікам.

**– Жылуновіч схіліўся да бальшавікоў. Чаму так здарылася?**

– Калі прачытаць іх праграму, яны абяцалі перадаць зямлю сялянам, запэўнівалі, што рабочыя на заводах будуць самі выбіраць кіраўніцтва і частку прыбытку размяркоўваць паміж сабой. Бальшавікам удалося пераканаць народ, што яны зробяць жыццё лепшым. У той жа час дзеячы БНР не маглі згуртавацца, спрачаліся паміж сабой.

Жылуновіч спадзяваўся, што калі абвешчана нацыянальная рэспубліка, то з цягам часу ў школах пачнуць выкладаць усе прадметы на беларускай мове, у кожным горадзе будзе працаваць нацыянальны тэатр, возьмецца за культурную справу інтэлігенцыя, і будзе створаны нацыянальны друк.

У 1925 годзе Жылуновіч вязе ў Берлін дзвесці тысяч марак і два пуды рукапісаў, каб выпусціць у свет падручнікі на беларускай мове і некалькі томікаў беларускага прыгожага пісьменства. Ён узначальвае Дзяржаўнае выдавецтва БССР, актывізуе выдавецкую працу, рупіцца пра паліграфічнае забеспячэнне.

**– Вы стварылі рознапланавы партрэт Цішкі Гартнага. Ён у вас прадстаўлены і з бытавога боку…**

– Так. Хоць Жылуновіч выйшаў з правінцыі, але быў надзвычай інтэлігентным чалавекам. Заўсёды сачыў за сваім знешнім выглядам, любіў прыгожа апранацца. Як толькі дазволілі ўмовы, купіў шэры франтаваты касцюм-тройку. Насіў белыя накрухмаленыя каўнерыкі, гальштук-матылёк, велюравы капялюш з вузкімі палямі, прывезены з Германіі. У Капыль ён прыязджаў заўсёды ў самым лепшым касцюме, падарункі прывозіў не толькі радні, але і суседзям, дзяцей частаваў цукеркамі, пернікамі. Многім гэта падабалася.

А нехта цішком зайздросціў. Так з’явіўся данос у ЦК: маўляў, Жылуновіч браў удзел у пахаванні свайго швагра з царкоўнымі ўшанаваннямі, а следам – што быў апрануты па-буржуй-ску, нават пачапіў гальштук. У чэрвені 1924-га яго на год выключылі з партыі – *«за адарванасць ад мас і абывацельскую псіхалогію»*.

У 1928 годзе ён становіцца правадзейным членам Інбелкульта. У 1934–1936-м працуе ў Інстытуце гісторыі БелАН, чытае лекцыі па гісторыі Беларусі. У сваю кніжку я ўключыў вершы Змітра Жылуновіча.

**Эла ДЗВІНСКАЯ.**

**На здымку: матэрыялы выставы да 100-годдзя БССР.**

ФУТБОЛЬНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

# Расписание чемпионата Беларуси по футболу на 2019 год

Напомним, что в этом сезоне в первенстве будет выступать новая команда «Дняпро-МЧЗ», которая образовалась путем объединения двух клубов – могилевского «Днепра» и минского «Луча».

### ТУР 1
**29 марта, пятница**
Гомель – Неман (Гродно)
Минск – Витебск
**30 марта, суббота**
Ислочь (Минский район) – Городея
Шахтер (Солигорск) – Торпедо (Минск)
Дняпро-МЧЗ (Могилев) – БАТЭ (Борисов)
**31 марта, воскресенье**
Динамо (Минск) – Славия (Мозырь)
Слуцк – Энергетик-БГУ (Минск)
Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Динамо (Брест)

### ТУР 2
**5 апреля, пятница**
Минск – Динамо (Мн)
Городея – Витебск
**6 апреля, суббота**
Неман – Шахтер
Слуцк – Гомель
Энергетик-БГУ – БАТЭ
**7 апреля, воскресенье**
Торпедо – Ислочь
Динамо (Бр) – Дняпро-МЧЗ
Славия – Торпедо-БелАЗ

### ТУР 3
**12 апреля, пятница**
Дняпро-МЧЗ – Славия
**13 апреля, суббота**
Гомель – Энергетик-БГУ
Ислочь – Неман
Торпедо-БелАЗ – Минск
**14 апреля, воскресенье**
Динамо (Мн) – Городея
БАТЭ – Динамо (Бр)
Витебск – Торпедо
**15 апреля, понедельник**
Шахтер – Слуцк

### ТУР 4
**19 апреля, пятница**
Минск – Дняпро-МЧЗ
Неман – Витебск
**20 апреля, суббота**
Славия – БАТЭ
Торпедо – Динамо (Мн)
Городея – Торпедо-БелАЗ
**21 апреля, воскресенье**
Слуцк – Ислочь
Гомель – Шахтер
Энергетик-БГУ – Динамо (Бр)

### ТУР 5
**25 апреля, четверг**
Торпедо-БелАЗ – Торпедо
Динамо (Бр) – Славия
**26 апреля, пятница**
Витебск – Слуцк
Динамо (Мн) – Неман
БАТЭ – Минск
**27 апреля, суббота**
Дняпро-МЧЗ – Городея
Шахтер – Энергетик-БГУ
Ислочь – Гомель

### ТУР 6
**4 мая, суббота**
Неман – Торпедо-БелАЗ
Торпедо – Дняпро-МЧЗ
**5 мая, воскресенье**
Минск – Динамо (Бр)
Слуцк – Динамо (Мн)
Энергетик-БГУ – Славия
**6 мая, понедельник**
Городея – БАТЭ
Гомель – Витебск
Шахтер – Ислочь

### ТУР 7
**10 мая, пятница**
Торпедо-БелАЗ – Слуцк
Славия – Минск
**11 мая, суббота**
Динамо (Бр) – Городея
Дняпро-МЧЗ – Неман
Ислочь – Энергетик-БГУ
**12 мая, воскресенье**
БАТЭ – Торпедо
Динамо (Мн) – Гомель
Витебск – Шахтер

### ТУР 8
**17 мая, пятница**
Энергетик-БГУ – Минск
Неман – БАТЭ
**18 мая, суббота**
Гомель – Торпедо-БелАЗ
Шахтер – Динамо (Мн)
Ислочь – Витебск
**19 мая, воскресенье**
Городея – Славия
Слуцк – Дняпро-МЧЗ
Торпедо – Динамо (Бр)

### ТУР 9
**22 мая, среда**
Матчи с участием финалистов Кубка Беларуси
**23 мая, четверг**
Витебск – Энергетик-БГУ
Торпедо-БелАЗ – Шахтер
**24 мая, пятница**
Дняпро-МЧЗ – Гомель
БАТЭ – Слуцк
Динамо (Мн) – Ислочь
**25 мая, суббота**
Динамо (Бр) – Неман
Славия – Торпедо
Минск – Городея

### ТУР 10
**31 мая, пятница**
Шахтер – Дняпро-МЧЗ
Ислочь – Торпедо-БелАЗ
**1 июня, суббота**
Гомель – БАТЭ
Витебск – Динамо (Мн)
Энергетик-БГУ – Городея
**2 июня, воскресенье**
Торпедо – Минск
Неман – Славия
Слуцк – Динамо (Бр)

### ТУР 11
**14 июня, пятница**
Минск – Неман
Городея – Торпедо
**15 июня, суббота**
Дняпро-МЧЗ – Ислочь
Торпедо-БелАЗ – Витебск
Славия – Слуцк
**16 июня, воскресенье**
БАТЭ – Шахтер
Динамо (Бр) – Гомель
Динамо (Мн) – Энергетик-БГУ

### ТУР 12
**21 июня, пятница**
Энергетик-БГУ – Торпедо
Неман – Городея
**22 июня, суббота**
Шахтер – Динамо (Бр)
Ислочь – БАТЭ
Динамо (Мн) – Торпедо-БелАЗ
**23 июня, воскресенье**
Витебск – Дняпро-МЧЗ
Слуцк – Минск
Гомель – Славия

### ТУР 13
**28 июня, пятница**
Торпедо – Неман
Торпедо-БелАЗ – Энергетик-БГУ
**29 июня, суббота**
Динамо (Бр) – Ислочь
Минск – Гомель
Городея – Слуцк
**30 июня, воскресенье**
Дняпро-МЧЗ – Динамо (Мн)
БАТЭ – Витебск
Славия – Шахтер

### ТУР 14
**5 июля, пятница**
Динамо (Мн) – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Дняпро-МЧЗ
**6 июля, суббота**
Шахтер – Минск
Витебск – Динамо (Бр)
Энергетик-БГУ – Неман
**7 июля, воскресенье**
Ислочь – Славия
Слуцк – Торпедо
Гомель – Городея

### ТУР 15
**12 июля, пятница**
Дняпро-МЧЗ – Энергетик-БГУ
Минск – Ислочь
**13 июля, суббота**
БАТЭ – Торпедо-БелАЗ
Торпедо – Гомель
Неман – Слуцк
**14 июля, воскресенье**
Городея – Шахтер
Динамо (Бр) – Динамо (Мн)
Славия – Витебск

### ТУР 16
**19 июля, пятница**
Энергетик-БГУ – Слуцк
Неман – Гомель
**20 июля, суббота**
БАТЭ – Дняпро-МЧЗ
Городея – Ислочь
Динамо (Бр) – Торпедо-БелАЗ
**21 июля, воскресенье**
Славия – Динамо (Мн)
Торпедо – Шахтер
Витебск – Минск

### ТУР 17
**9 августа, пятница**
Ислочь – Торпедо
Торпедо-БелАЗ – Славия
**10 августа, суббота**
БАТЭ – Энергетик-БГУ
Дняпро-МЧЗ – Динамо (Бр)
Гомель – Слуцк
**11 августа, воскресенье**
Динамо (Мн) – Минск
Шахтер – Неман
Витебск – Городея

### ТУР 18
**16 августа, пятница**
Энергетик-БГУ – Гомель
Неман – Ислочь
**17 августа, суббота**
Минск – Торпедо-БелАЗ
Славия – Дняпро-МЧЗ
Динамо (Бр) – БАТЭ
**18 августа, воскресенье**
Торпедо – Витебск
Городея – Динамо (Мн)
Слуцк – Шахтер

### ТУР 19
**23 августа, пятница**
Дняпро-МЧЗ – Минск
Ислочь – Слуцк
**24 августа, суббота**
Витебск – Неман
Динамо (Бр) – Энергетик-БГУ
БАТЭ – Славия
**25 августа, воскресенье**
Торпедо-БелАЗ – Городея
Шахтер – Гомель
Динамо (Мн) – Торпедо

### ТУР 20
**30 августа, пятница**
Торпедо – Торпедо-БелАЗ
Городея – Дняпро-МЧЗ
**31 августа, суббота**
Гомель – Ислочь
Минск – БАТЭ
Славия – Динамо (Бр)
**1 сентября, воскресенье**
Энергетик-БГУ – Шахтер
Слуцк – Витебск
Неман – Динамо (Мн)

### ТУР 21
**13 сентября, пятница**
Дняпро-МЧЗ – Торпедо
**14 сентября, суббота**
БАТЭ – Городея
Динамо (Бр) – Минск
Торпедо-БелАЗ – Неман
**15 сентября, воскресенье**
Динамо (Мн) – Слуцк
Славия – Энергетик-БГУ
Ислочь – Шахтер
**16 сентября, понедельник**
Витебск – Гомель

### ТУР 22
**20 сентября, пятница**
Городея – Динамо (Бр)
Минск – Славия
**21 сентября, суббота**
Слуцк – Торпедо-БелАЗ
Энергетик-БГУ – Ислочь
Неман – Дняпро-МЧЗ
**22 сентября, воскресенье**
Торпедо – БАТЭ
Шахтер – Витебск
Гомель – Динамо (Мн)

### ТУР 23
**27 сентября, пятница**
Минск – Энергетик-БГУ
Дняпро-МЧЗ – Слуцк
**28 сентября, суббота**
Динамо (Бр) – Торпедо
БАТЭ – Неман
Славия – Городея
**29 сентября, воскресенье**
Торпедо-БелАЗ – Гомель
Динамо (Мн) – Шахтер
Витебск – Ислочь

### ТУР 24
**4 октября, пятница**
Торпедо – Славия
Городея – Минск
**5 октября, суббота**
Энергетик-БГУ – Витебск
Неман – Динамо (Бр)
Шахтер – Торпедо-БелАЗ
**6 октября, воскресенье**
Ислочь – Динамо (Мн)
Гомель – Дняпро-МЧЗ
Слуцк – БАТЭ

### ТУР 25
**18 октября, пятница**
Минск – Торпедо
**19 октября, суббота**
Славия – Неман
БАТЭ – Гомель
Динамо (Мн) – Витебск
**20 октября, воскресенье**
Дняпро-МЧЗ – Шахтер
Торпедо-БелАЗ – Ислочь
Динамо (Бр) – Слуцк
**21 октября, понедельник**
Городея – Энергетик-БГУ

### ТУР 26
**25 октября, пятница**
Неман – Минск
**26 октября, суббота**
Слуцк – Славия
Гомель – Динамо (Бр)
Торпедо – Городея
**27 октября, воскресенье**
Энергетик-БГУ – Динамо (Мн)
Витебск – Торпедо-БелАЗ
Шахтер – БАТЭ
**28 октября, понедельник**
Ислочь – Дняпро-МЧЗ

### ТУР 27
**1 ноября, пятница**
Минск – Слуцк
**2 ноября, суббота**
Славия – Гомель
Городея – Неман
БАТЭ – Ислочь
**3 ноября, воскресенье**
Дняпро-МЧЗ – Витебск
Динамо (Бр) – Шахтер
Торпедо-БелАЗ – Динамо (Мн)
**4 ноября, понедельник**
Торпедо – Энергетик-БГУ

### ТУР 28
**8 ноября, пятница**
Динамо (Мн) – Дняпро-МЧЗ
Гомель – Минск
**9 ноября, суббота**
Слуцк – Городея
Шахтер – Славия
Неман – Торпедо
**10 ноября, воскресенье**
Энергетик-БГУ – Торпедо-БелАЗ
Витебск – БАТЭ
Ислочь – Динамо (Бр)

### ТУР 29
**23-24 ноября, суббота-воскресенье**
Неман – Энергетик-БГУ
Торпедо – Слуцк
Городея – Гомель
Минск – Шахтер
Славия – Ислочь
Динамо (Бр) – Витебск
БАТЭ – Динамо (Мн)
Дняпро-МЧЗ – Торпедо-БелАЗ

### ТУР 30
**30 ноября – 1 декабря, суббота-воскресенье**
Энергетик-БГУ – Дняпро-МЧЗ
Торпедо-БелАЗ – БАТЭ
Динамо (Мн) – Динамо (Бр)
Витебск – Славия
Ислочь – Минск
Шахтер – Городея
Гомель – Торпедо
Слуцк – Неман

МАЗАІКА

## Ведай нашых!

*Беларуская баскетбалістка Алена Леўчанка ў складзе "Хаменетмена" заваявала Кубак Лівана.*



У фінале Кубка краіны клуб, за які выступае беларуска, перамог "Аль-Рыядзі" – 67:50.

## «Дарыда» вяртаецца?

*Футбольны клуб "Дарыда" плануе заявіцца ў другую лігу.*

У "Твітары" клуба паведамляецца, што працэс падачы заяўкі ўжо пачаўся, зараз ідзе пошук фінансавых сродкаў і набор ігракоў, трэнераў, а таксама адміністрацыйных супрацоўнікаў.

Нагадаем, што футбольны клуб з такой назвай быў заснаваны ў 2000 годзе. З 2003-га па 2008 год каманда выступала ў вышэйшай лізе, але ў 2008 годзе клуб "Дарыда" спыніў сваё існаванне.

## Пра што марыць трэнер «Іслачы»?

*Галоўны трэнер футбольнай каманды "Іслач", якая выступае ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі, распавёў пра планы на будучы сезон, які стартуе ўжо ў гэтым месяцы.*




*"Наша мэта – набраць 50 ачкоў,* – паведаміў Віталь Жукоўскі на тэлеканале "Беларусь 5". – *Будзем старацца яе дасягнуць. У мінулым сезоне мы забівалі вельмі мала, таму зараз, безумоўна, хацелася б нешта змяніць, асвяжыць каманду. Сезон пакажа, як будзе на самай справе".*

## Не наша свята…

*Вызначыліся ўсе пары раўнда плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі.*

У 1/4 фіналу Кубка Гагарына сустрэнуцца: "Аўтамабіліст" (Екацярынбург) – "Салават Юлаеў" (Уфа), "Барыс" (Астана) – "Авангард" (Омск), ЦСКА – "Дынама" (Масква), СКА (Санкт-Пецярбург) – "Лакаматыў" (Яраслаў).

Матчы гэтага раўнда стартуюць 13–14 сакавіка. Мінскае "Дынама", як вядома, у рэгулярным чэмпіянаце заняло перадапошняе месца, таму матчамі плэй-оф "Зубрам" застаецца захапляцца толькі па тэлевізары.

ШАХМАТЫ

## Скрыпач і шахматыст

Сёлета спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння беларускага шахматнага кампазітара ***Аркадзя Плостака*** (1924–1985). Аркадзь Маркавіч быў інвалідам вайны (вясной 1945 года на фронце страціў нагу). Скончыўшы кансерваторыю, выкладаў музыку, быў канцэртмайстрам аркестра Купалаўскага тэатра. У шахматах пачынаючы з 1954 года склаў каля 350 задач, пераважна двухходовых, атрымаў 70 адзнак на конкурсах. Сярэбраны прызёр першага чэмпіянату БССР па шахматнай кампазіцыі ў раздзеле двухходовак. Прапануем для рашэння адну з задач А.Плостака *(гл.дыяграму)*.




**Белыя:** Крg3, Фа1, Лd6, Лg5, Cf5, Ch6, Кс8, Кf7, пп. d3, g4, g6 (11).

**Чорныя:** Крf6, Лd4, Cb3, Ка3, пп. c5, e6 (6).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** абою на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## З эцюднай творчасці

Яшчэ адзін сёлетні юбіляр (85 гадоў) – ***Уладзімір Іванавіч Клюкін***. Нарадзіўся ён у Баку, эканаміст па прафесіі, кандыдат у майстры па шахматах. Быў адным з мацнейшых эцюдыстаў Беларусі – апублікаваў 60 эцюдаў, 20 з якіх былі адзначаны ў конкурсах. Вось адзін з яго твораў:

**Белыя:** Кре6, Cf3, Ch6, п. g7 (4).

**Чорныя:** Крg8, Лd3, пп. а7, d4, h5 (5).

**Выйгрыш.**

Рашае 1.Cd5 Лg3 2.Кре7+ Крh7 3.Cf4 Лg4 4.g8Ф+ Л:g8 5.Крf7 Лg7+ 6.Крf8 Крg6 7.Ce5 Лd7 8.Ce4+ Крg5 9.Кре8.

## Першая ліга

У Магілёве прайшоў першы этап чэмпіянатаў Беларусі. У мужчын змагаліся 25 шахматыстаў (у тым ліку адзін гросмайстар, два міжнародныя майстры і два майстры ФІДЭ), а месцы з першага па шостае ў выніковай табліцы занялі адпаведна міжнародны майстар ***Віталь Мерыбанаў***, майстар ФІДЭ ***Аляксей Тэрзі***, гросмайстар ***Віталь Цецераў***, міжнародны майстар ***Вячаслаў Зарубіцкі***, ***Арцём Стрыбук*** і майстар ФІДЭ ***Дзяніс Лазавік***. Сярод 14 шахматыстак у першую шасцёрку трапілі ***Яна Ільючык***, ***Ксенія Зелянцова***, міжнародны майстар ***Таццяна Каспарава***, ***Ганна Сташыс***, ***Вера Пракапук*** і ***Аляксандра Тарасенка***.

## Львоўскія баталіі

Таленавіты малады беларускі шахматыст ***Міхаіл Нікіценка*** заняў другое месца на міжнародным турніры ў Львове. Вось як ён выйграў у гросмайстраў, што фінішавалі на першым і трэцім месцах.

***Міхаіл Нікіценка – Юрый Воўк***

1.e4 c5 2.Кf3 e6 3.d4 cd 4.К:d4 Кс6 5.Кс3 Фс7 6.Се3 а6 7.Фf3 b5 8.К:c6 Ф:c6 9.Cd3 Cb7 10.a3 Кf6 11.Фg3 h5 12.e5 h4 13.Фh3 Кd5 14.Ce4 Фс4 15.Фf3 Лс8 16.К:d5 С:d5 17.С:d5 ed 18.c3 Фе4 19.0-0-0 h3 20.Лd4 hg 21.Л:e4 ghФ+ 22.Ф:h1 de 23.Ф:e4 Ce7 24.Фg2 Лс6 25.Ф:g7 Л:h2 26.Фg3 Лh1+ 27.Кс2 Кf8 28.Cd4 Лh4 29.Кb1 Лg6 30.Фf3 Ке8 31.Ка2 Лс6 32.Фd5 Лf4 33.Се3 Лfc4 34.f4 Сс5 35.Cd2 Cf8 36.f5 Л4с5 37.Фе4 Лс4 38.Фg2 а5 39.f6 b4 40.cb ab 41.Фg8 Лh4 42.С:b4 Л:b4 43.ab Лb6 44.Фg2 Лb8 45.b5, 1:0.

***Міхаіл Нікіценка – Міхаіл Голубеў***

1.e4 c5 2.Кf3 g6 3.d4 cd 4.К:d4 Кс6 5.Кс3 Cg7 6.Се3 Кf6 7.К:c6 bc 8.e5 Кg8 9.Cd4 Фа5 10.f4 f6 11.Фd2 fe 12.fe c5 13.Се3 С:e5 14.Сс4 Кf6 15.0-0 Са6 16.С:а6 Ф:а6 17.С:c5 d6 18.Лае1 С:h2+ 19.К:h2 dc 20.Кb5 Кg4+ 21.Кg1 Ф:b5 22.Фd5, 1:0.

## Праверце адказы

Задача М.Быкава, змешчаная ў «Народнай Волі» 26 лютага, рашаецца: **1.Фа1**.

Першымі правільна адказалі ***Васіль Жуковіч***, ***Ігар Ананіч***, ***Віктар Жук***, ***Сяргей Цяльпук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.03.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 060 экз. Заказ № 962.

9 772071 964000 19020